PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 5 (1916) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 31 СТУДЗЕНЯ 1993 г. ЦАНА 2500 зл.

## ЗНІШЧЫЛІ "ТРОЙКУ"

Уначы з 19 на 20 студзеня ў Пачатковую школу № 3 у Бельску ўзламаліся невядомыя вандалы. Нічога яны не ўкралі, толькі разбурылі адзін кабінет, і, галоўнае, адкруцілі гідрант на трэцім паверсе. Да раніцы цэлае новае крыло будынка было залітае вадой - паадвальваўся тынк са сцен, на падлозе адстаў паркет. Будынак, у гэты момант, аказаўся зусім непрыдатным для працы. Дзеці былі распушчаны на прымусовыя двухтыднёвыя канікулы.

Матэрыяльныя страты ацэньваюцца на 2 мільярды злотых. Бандыцкі напад меў месца якраз тады, калі засталіся лічаныя дні да адкрыцця, будаванай на працягу доўгіх гадоў, гімнастычнай залы.

Дырэктар школы Васіль Ляшчынскі звярнуўся з просьбаю да грамадскасці горада дапамагчы вярнуць аб'ект у карыстанне.

*(Больш падрабязна будзе праз тыдзень.)*

М.В.



*Так найчасцей выглядаюць зімнія канікулы.* **Фота Я. Целушэцкага**

## ЛЮМПЕН-ПРАЛЕТАРЫЯТ І ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ

Цераз Еўропу восенню 1992 г. перавалілася хваля гвалту, дзікай нянавісці, шавінізму. Яна яшчэ не зусім апала. Часта ў інфармацыйных сервісах вымаўлялася слова „скінгэд", а ў варшаўскім тэлебачанні паказалі маладых людзей абстрыжаных да голай скуры, якія без памяці крычалі: „Зіг гайль! — Хрыстус круль".

Калі хтосьці ў рацыянальны спосаб прабаваў высветліць гэтае спалучэнне нацысцкага прывітання з іменем Хрыста, дарэмна стараўся. Іх калегі ў той час у Берліне, Дрэздэне, Лейпцыгу палілі дамы разам з іх жыхарамі – замежнымі рабочымі, якія прыехалі ў Нямеччыну шукаць працы, хлеба і лепшай будучыні. У Берліне, Варшаве, Сараеве такія ж самыя тупыя, сінія з нянавісці твары. Хто яны, гэтыя — у знакамітай большасці маладыя — людзі? Праўдападобна ніхто пра іх і не чуў бы, калі б палітычная ці эканамічная сітуацыя не выцягнула іх на вуліцу і не стварыла героямі кашмарнага гратэску. У большасці гэта людзі, якім не пашанцавала ў жыцці, якія перажылі б свой час без мэты і сэнсу. Гэта ў сапраўднасці дэбілы, якім шавіністычная істэрыка дае адзіны шанц паказацца. У краінах былой Югаславіі палітыкі стварылі сваім ідыётам сапраўдны рай, далі магчымасць страляць, рэзаць, гвалтаваць без абмежавання.

А што могуць прапанаваць свайму люмпу хворыя прагай улады і ўплываў такія ж самыя параноікі, толькі са званнем прафесараў ці інтэлектуалаў з Берліна, Варшавы, Беластока, Масквы? Адны крычаць, што замежныя рабочыя нішчаць нямецкую цывілізацыю, другія — што над польскай эканомікай кантроль пераняла сіянісцкая мафія, трэція — што беларусы — твор царска-сталінскай палітыкі — усё яшчэ кіруюць Беласточчынай.

Маскоўскі пісьменнік і палітык Эдуард Лімонаў у размове з журналістам „Палітыкі" (н-р 2) ганарыцца сваім расейскім шавінізмам, не скрывае свае пагарды да суседніх народаў, выяўляе патрэбу правесці іх у стан зняволенага натоўпу. У беластоцкім часопісе маладых шавіністаў „Бастыён"(н-р 11) я нядаўна прачытаў артыкул прафесара Цехановіча, дзе вучоны гэты даказвае, што ўжо ў пятым стагоддзі Беларусь была заваявана палякамі. Не ведаю, хто гэтаму дзядзьку даў званне прафесара, але напэўна з'яўляецца ён аўтарытэтам для вучняў ліцэяў ці прафесійных школ. Гэта такія „інтэлектуалы" як Лімонаў ці Цехановіч ствараюць асновы расісцкай ідэалогіі. Прынцыпова зараз за імі ідуць арганізатары таталітарнага руху. А тыя, якія будуць толькі біць і гвалтаваць заўсёды знойдуцца, хопіць толькі іх паклікаць. Гітлер не быў першым, раней былі Чэмберлен, Юрген, Розенберг, Мюлер, Шміт, Грас — вучоныя, літаратары. Яны стварылі тэорыю, а пасля прыйшлі толькі іх вучні — Гебельсы, Гімлеры, Гайдрыхі. Рэалізатары ідэі гэтых першых ужо былі — сярод беспрацоўных, усялякіх жулікаў і г.зв. „парадачных людзей".

☞ *Працяг на стар. 2*

### ЁСЦЬ І ТОЕ, ЧАГО НЯМА - АЛЕ НЯМА ТАГО, ШТО ЁСЦЬ...

# DEFLORACJA MÓZGU ZBLIŻA SIĘ!

### ГУРТУЕМСЯ ШЧЫЛЬНЫМІ РАДАМІ

У дзень 14 студзеня, змагаючыся з пошугамі непрыхільнага ветру, цвярозы як суддзя, я дабрыў да гмаху Ваяводскага суда ў Беластоку. Новы год /Sylwester po raz drugi/ сустрэў мяне погукамі кацапскіх мелодыяў ад страганаў каля "Цэнтралю" і безнадзейнай пустэчай у кішэні. У мяне на ўвеце быў дослед у судовых актах, якія ад нейкага часу сталі маёй жыццёвай апантанасцю. У гэтым нейкім часе я ўжо паспеў прайграць дзве судовыя справы і сам унёс прыкметны ўклад у папаўненне судовых архіваў у Беластоку. Інакш кажучы, з усіх супрацоўнікаў "Нівы" я адчуваў сябе найбольш кампетэнтным, каб правесці вышэй згаданы дослед.

За вантробы кусала мяне адно нявысветленае пытанне. Дакладней кажучы - два пытанні: 1/ Як свабода гуртавання паўплывала на арганізацыйную структуру грамадства Беласточчыны? 2/ Як свабода слова паўплывала на выдавецкую актыўнасць /перыядычную/ грамадства Беласточчыны? Кіруючыся прынцыпам, што канчатковую праўду трэба шукаць у судзе, я апынуўся ў Аддзеле рэгістрацыі згуртаванняў і прэсы Ваяводскага суда. Там сустрэла мяне кіраўнічка канцылярыі гэтага Аддзела, спадарыня Тэрэса Хвойка. Пасля гжэчнага Szczęść Boże w Anno Domini 1993 я пачаў даследаваць.

Ужо першы выяўлены факт збіў мяне з навуковага панталыку. На дзень 14 студзеня 1993 года Ваяводскі суд у Беластоку зарэгістраваў 544 згуртаванні /stowarzyszenia/. Улічваючы, што для заснавання згуртавання трэба 15 асобаў, маем: 544 x 15 = 8160. Значыць, сама менш 8160 асобаў да нечага прыналежаць. Гэта неабвержная матэматычная тэарэма, якая абапіраецца на аксіёмы арыфметыкі і закон аб свабодзе гуртавання.

Другі факт, таксама прызнаюся, адно пабольшыў маю беспанталычнасць. На той самы дзень Ваяводскі суд зарэгістраваў 125 перыядычных выданняў у Беластоку і на Беласточчыне. Ніякай тэарэмы тут прывесці нельга, таму што куча выданняў паяўляецца без рэгістрацыі, а куча выданняў з рэгістрацыяй - не паяўляецца. Адзін Бог ведае, якая тут праўда. А мы даследуем Ваяводскі, а не Страшны, суд.

Але старэйшыя чытачы "Нівы" несумненна пагодзяцца, што пры гэтай дэмакратыі начаўплося чортведама што: мінуўся той ясна-празрысты час, калі на Беласточчыне выходзілі адно "Gazeta Białostocka" і "Ніва", а адзінымі арганізацыямі былі PZPR і БГКТ. Цяпер кожны прыдурак можа заснаваць сабе арганізацыю і газету. Цьфу!

### П'ЯНСТВУ - СТОП!

Беласточчына змагаецца з п'янствам у арганізацыйным парадку. Да бітвы з нецвярозасцю прыступілі: Białostockie Stowarzyszenie "Trzeźwość", Bielsko-Podlaskie Stowarzyszenie Abstynentów /Klub Abstynentów "Promień" w Bielsku-Podlaskim/, Klub Abstynentów "Krokus", Stowarzyszenie Abstynentów /Klub Abstynentów "Arka" w Białymstoku/. З неафіцыйных /ненавуковых/ крыніц ведаем, што вышэй пералічаныя арганізацыі варагуюць між сабою, змагаючыся за членаў. Нялёгка знайсці і ўтрымаць 60 /4 x 15 = 60/ непітушчых на Беласточчыне /закон аб згуртаваннях вымагае, каб былі гэта асобы дарослыя, з польскім грамадзянствам, не пазбаўленыя грамадзянскіх правоў/.

### КАЛІ Ў МОРДУ - ТО ПРАФЕСІЙНА

Два згуртаванні займаюцца падрыхтаваннем сваіх членаў да эфектыўнага /азіяцкага/ набівання морды. Гэта: Białostockie Stowarzyszenie AIKIDO, Federacja Karate Tradycyjnego SHOTOKAN. Нешта больш свойскае, родам з Чыжоў або Тыневічаў-Вялікіх, бачыцца нам у згуртаванні Stowarzyszenie Sympatyków Pięściarstwa. Што тычыцца Stowarzyszenia Użytkowników Mizara, мы не ўпэўненыя, ці маецца тут на ўвазе нейкі від кія або кастэта, ці, можа, зусім бясшкодны тып камп'ютэрнай мовы, якой карыстаюцца матэматыкі і фізікі, людзі ад прыроды мяккацелыя і небітлівыя.

### РУСЬ АДРОДЗІЦЦА НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

Так вынікае з актаў суда ў Беластоку. Зарэгістраваўся там Międzynarodowy Ruski Klub. Мэты Клуба, між іншым: a/ popularyzacja kultury ruskiej i propagowanie przyjaźni między narodami, a szczególnie pomiędzy narodami słowiańskimi i wyznawcami Prawosławia; b/ integracja środowisk ruskich. Статут дапускае шырокую інтэрпрэтацыю рускасці: рускім можа быць і беларус, і ўкраінец, і серб, і македонец. Але паляк - гэта не рускі. Што тычыцца румына - тут, як кажуць, нават сам Пятро Юшчук мае сумненні. Адно несумненнае - каб уступіць у Клуб, трэба два царкоўныя пасведчанні. Ну бо: członkiem zwyczajnym Klubu może zostać każdy pełnoletni obywatel RP, wyznania prawosławnego, o nienagannej postawie moralno-etycznej.

### UKRAIŃCY ZBLIŻAJĄ SIĘ

Адной з мэтаў Związku Ukraińców Podlasia з'яўляецца działanie na rzecz zbliżenia ukraińsko-polskiego i ukraińsko-białoruskiego. Związek здзяйсняе гэтую мэту паслядоўна: да палякаў наблізіўся гідраграфічна, бо пачаў выдаваць часопіс "Між Бугом і Нарвою", а беластоцкія сацыял-дэмакраты намерваюцца выдаваць "Nad Narwią i Supraślą"; да беларусаў наблізіўся радыёфанічна, бо зараз пасля "Украінскай думкі" ў беластоцкім радыё гучыць "Пад знакам Пагоні".

### РЭХА ГУКАЕ НА ПАДЛЯШШЫ

Тыднёвік "Echo Podlasia" зарэгістраваны як выданне Rady Wojewódzkiej SDRP. Я яго нідзе не бачыў. Мусібыць, не выходзіць.

☞ *Працяг на стар. 7*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Pracownicy tzw. sfery budżetowej byli przez kolejnych „władców" Polski traktowani jak piąte koło u wozu. Służba zdrowia, oświata i kultura były najniżej opłacanymi grupami zawodowymi.*
*(Gazeta Polska, nr 2, pismo KPN)*

Панове, мы лічым, што калі будзеце пры ўладзе (а мы ў гэтым упэўненыя), тады скончацца ўсе клопаты працаўнікоў у г.зв. бюджэтнай сферы. „Ніва", як ні круці, таксама знаходзіцца ў гэтай сферы і ўжо на нікога, акрамя вас, спадзявання не мае.

* * *

*W tym roku bezrobocie wzrośnie o 50 procent. W październiku ubiegłego było dwa i pół miliona zarejestrowanych bezrobotnych.*
*(Gazeta Polska, nr 2)*

Паказчык беспрацоўя, як здаецца, будзе адзіным у польскай эканоміі, які ўзрасце.

* * *

*Беларусь — Украина: нам не жить друг без друга.*
*(Рэспубліка, н-р 244)*

Ад сябе дадамо: и без подруги России не жить нам.

* * *

*Сигареты дорожают, исчезают и опять дорожают... Так и не поймёшь, то ли их не хватает, то ли их придерживают.*
*(Рэспубліка, н-р 243)*

Мы разумеем гэта так: калі цыгарэты даражэюць, знікаюць і зноў даражэюць, сацыялізм уваходзіць у сваю апошнюю стадыю — развітую.

* * *

*Za Serbią twardo stoi Grecja, mniej twardo Rumunia i Bułgaria. Serbia może liczyć na stare sympatie ze strony Rosjan. Muzułmanów popiera Turcja i Stany Zjednoczone.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 4)*

Як бы яно ўсё не круцілася, і так вяртаюцца старыя, сярэдневяковыя падзелы: візантыйска-мусульманскія, візантыйска-лацінскія. Напрыклад, Польшча ўводзіць візавы абавязак толькі грамадзянам „нелацінскіх" дзяржаваў: беларусам, украінцам, расейцам, балгарам, румынам, сербам, чарнагорцам і македонцам. Харваты, хоць і з былое Югаславіі, такіх абмежаванняў не маюць (лацiннікі). Летувісы, хоць мафію арганізаваць умеюць не горш за ўкраінцаў, не патрабуюць візаў, каб пагандляваць у Беластоку.

* * *

*Mimo że w białoruskiej Konstytucji nie ma jeszcze ani jednego słowa na temat urzędu prezydenta, pierwszy kandydat już się znalazł. Jest nim 59-letni Aleksander Pruszyński, obywatel Polski i Kanady.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 7)*

Беларусь таксама мае свайго Тымінскага.

* * *

*Zarząd miasta Katowice postanowił, że rockowy zespół „Piersi" nie będzie mógł koncertować w salach na terenie miasta. Utwór zespołu „ZChN zbliża się" obraża uczucia religijne Polaków.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 8)*

Індэкс забароненых кніжак ужо быў. Гурт „Piersi" мае гістарычны шанц трапіць на першае месца ў індэксе забароненых твораў рок-музыкі. Прынамсі ў Польшчы.

* * *

*W Polsce pracuje nielegalnie ok. 100 tys. Rosjan, Ukraińców, Białorusinów, którzy zabierają miejsca pracy naszym rodakom — mówił poseł ZChN.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 8)*

Разумеем, што палякі, якія працуюць у Нямеччыне ці ЗША, няйначай як ствараюць новыя месцы працы тамашнім беспрацоўным.

А пры нагодзе: эканамічная бяда — гэта з'явішча цывілізацыйнае, а не нацыянальнае, panie (p)ośle!

* * *

*Однажды ночью в номере Роберта появляется юная девушка Алена, представительница жриц древнейшей профессии. Она только начинает осваивать своё ремесло в стенах интуристских гостиниц. (...) Этот немного сентиментальный, изящный фильм („Полёт ночной бабочки"! — рэд.) с удовольствием посмотрят все зрители, а особенно молодые, у которых ещё всё впереди.*
*(Советская Белоруссия, н-р 238, 1992)*

Калісьці *впереди* былі Байкальска-амурскія магістралі, цаліна Казахстана і сцены свінагадоўчых фермаў. А цяпер — *стены интуристских гостиниц.* Советская Белоруссия даёт очень полезные советы. И изящные.

* * *

*Бизнес есть деньги минус эмоции.*
*(Вечерний Минск, н-р 246, 1992)*

Дасканалы дэвіз для мафіёзі.

* * *

*Гандаль — размова цывілізаваных людзей.*
*(Звязда, н-р 245, 1992)*

Дзе гэта такое?

# З мінулага тыдня

**Уільям Джэферсан Клінтан** пачаў выпаўняць сваю місію як 42 прэзідэнт Злучаных Штатаў Амерыкі. Пасля ўрачыстай прысягі выступіў ён з палымянай прамовай, у якой заклікаў амерыканскі народ дапамагчы новаму пакаленню правадыроў "супрацьставіцца цвёрдым праўдам і прымаць смелыя рашэнні". "Мы не будзем унікаць выклікаў часу і не змарнуем магчымасцяў" - сказаў новы прэзідэнт. Урачыстую прысягу даў таксама віцэ-прэзідэнт ЗША **Альберт Гор**, былы дэмакратычны сенатар са штата Тэнесі.

**Федэратыўная Рэспубліка Германіі** выказала пашану былому прэзідэнту **Д. Бушу**, заявіла аб лаяльнасці новаму прэзідэнту **Б. Клінтану** і адначасна перасцерагла яго перад пасткамі на міжнароднай арэне. Паводле бонскіх экспертаў Расія пакідае супольны фронт Захаду супраць Ірака і пачынае разыгрываць свае ўласныя інтарэсы.

**Віцэ-прэм'ер Генрык Гарышэўскі** знаёмячы парламентарыяў з ходам гаспадарчых рэформаў у II палове 1992 г. і перспектывамі гаспадаркі ў гэтым годзе прыпомніў, што "1993 год і наступны былі названы ўрадам гадамі палітыкі гаспадарчага прагрэсу". "Гаспадарка, пачынаючы з II квартала мінулага года пачала выхад з рэцэсіі і зафіксавала рост прамысловай прадукцыі. У маштабе года яе ўзровень павысіўся на 2 працэнты больш, чым у 1991 г. Чакаецца таксама, што рост прадукцыі будзе працягвацца і ў 1993 г. Гэта вылучае Польшчу з ліку посткамуністычных дзяржаў, у якіх гаспадарчыя рэзультаты менш карысныя, а прагнозы больш песімістычныя, чым у пачатку года" - сказаў Г. Гарышэўскі.

**"Тыдзень малітваў за адзінства хрысціян"** пачаўся 19 студзеня г.г. у Святадухаўскім саборы ў Беластоку. Экуменічнае набажэнства адправіў архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі **Сава** ў саслужэнні праваслаўнага духавенства. У пропаведзі архіепіскап Сава сказаў: "Нашыя маленні заносім Святому Духу, каб захаваў нас ад усялякага зла і ачысціў душы нашыя... Святы Духу, вядзі нас далей сваёй дарогай, каб усе мы былі адно". У набажэнстве прысутнічалі каталіцкія ксяндзы і манашкі, а таксама прэзідэнт горада Беластока **Лех Руткоўскі** і старшыня Гарадской рады **Януш Далецкі**.

**Міжнародны прыгранічны кірмаш** адбудзецца ў лютым г.г. у Сувалках. Прымуць у ім удзел прадпрымальнікі з Беларусі, Летувы, Латвіі і Эстоніі.

**Беларускі верталёт** парушыў польскую граніцу ў Бяльска-падляшскім ваяводстве. Самалёт знайшоўся ў польскай паветранай прасторы паміж мясцовасцямі Кодзень і Славатычы. Пасля выяўлення верталёта польскімі радыёлакацыйнымі службамі машына вярнулася назад.

**Беларускі друк паінфармаваў аб "збожжавай аферы"**, у выніку якой з пасады вызвалены быў віцэ-міністр збожжавай прамысловасці, а шэф таго ж ведамства атрымаў суровую вымову. Ставіцца ім закід вядзення валютных інтарэсаў. Дачыненне да гэтай справы мае польская фірма "Triticum" з Залесся.

# ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- ✓ Варвары ў бельскай "тройцы".
- ✓ Палітыка і хрысціянскія вартасці.
- ✓ Дзе калектыў "Дубіны" і іх інструменты?
- ✓ Жыхары Бялкоў таксама маюць перыпеты з тэлефонам.



## ЛЮМПЕН-ПРАЛЕТАРЫЯТ І ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ

☛ *Працяг са стар. 1*

Вялікі стваральнік люмпен-пралетарскай ідэалогіі Ленін напісаў калісь: „інтэлігенцыя гэта грамадскі слой, які служыць можа кожнай пануючай мафіі. Гісторыя трыццатых гадоў даказала, што ахвотна можа служыць таксама люмпен-пралетарыяту, а сучасная рэчаіснасць паказвае, што нямала і цяпер такіх „інтэлектуалаў" гатовых паўтарыць гэты саюз — дзеля збаўлення расы, нацыі, рэлігіі і толькі сам чорт ведае чаго яшчэ.

ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ

# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

## ВЯРТАЦЦА ДЫК ПРЭЗІДЭНТАМ

Надзвычай весела пачалося сёлета палітычнае жыццё на Беларусі.

Днямі ў менскім гатэлі "Кастрычнік" жыхар Таронта, грамадзянін Польшчы і Канады, граф Аляксандр ПРУШЫНЬСКІ наладзіў прэс-канферэнцыю для беларускіх і замежных журналістаў, на якой афіцыйна заявіў аб пачатку сваёй барацьбы за пасаду прэзідэнта Беларусі. Першага, і хутчэй за ўсё вечнага кандыдата ў прэзідэнты зусім не бянтэжыць той факт, што ў Канстытуцыі Беларусі пакуль няма пасады прэзідэнта, а ў Яго сіяцельства беларуская грамадзянства. Зрэшты, пан Прушыньскі ўпэўнены чамусьці, што без яго беларусы не абыйдуцца. У крайнім выпадку, калі Беларусь застанецца парламенцкай рэспублікай, ён згодзен заняць крэсла старшыні Вярхоўнага Савета або рэгента - словам, кіраўніка нашай дзяржавы.

## УРАД НЯРОЎНА ДЗЕЛІЦЬ

Сярод шматлікіх маладзёжных арганізацый на Беларусі у прывілеяваным становішчы застаецца Саюз моладзі Беларусі /былы камсамол/.

У пастанове Савета Міністраў РБ прадугледжваецца першачарговы разгляд усіх праграм, распрацаваных СМБ, а таксама іх дзяржаўнае фінансаванне. Згодна з ёй Саюз моладзі з'яўляецца і прыярытэтнай арганізацыяй у галіне міжнароднага абмену і турызму.

Было б дзіўным, калі б прадстаўленне ільгот толькі адной арганізацыі /а значыць, вяртанне ёй манапольных правоў/, не выклікала незадаволенасці прадстаўнікоў іншых аб'яднанняў моладзі.

## ЦЯГНІКОМ НЯДРЭННА Б, АЛЕ КОНЬ БОЛЬШ ТАННЫ

Каляднае павелічэнне цэнаў на чыгуначныя паслугі на цягнікі далёкіх і мясцовых зносін у два разы, па ўсім відаць, павялічыць попыт на рынку і на паўзабытыя фурманкі.

І хаця цэны на праезд у электрычках застаюцца ранейшымі, паліва даражэе не па днях, а з кожным імгненнем. Таму Упраўленне чыгуначнага транспарту Беларусі папярэджвае, што кропку ў стабілізацыі цэн на чыгуначныя білеты пакуль ставіць рана.

## ШЧАСЦЕ НЕ Ў ГРОШАХ...

За адзінаццаць месяцаў мінулага года грашовыя даходы насельніцтва Беларусі склалі амаль што 300 мільярдаў рублёў. Гэта ў 7,4 раза больш, чым за такі ж перыяд 1991 года.

## САМІ З РУКАМІ

Аказваецца, аграрны сектар Беларусі і галіны, блізкія да яго, давалі, даюць і будуць даваць на міжнародны рынак каля 500 найменняў тавараў.

Так што няма чаго прадказваць дрэнны выгляд рэспублікі на гандлёвым рынку Еўропы. Беларускія пух, пер'е, ягады, лекавыя расліны, рапс, грэчка, коні, ракі, ільнасемя, каўбасы і вяндліна, рыба, мінеральная вада і нават мэбля карыстаюцца не меншым попытам, чым замежныя.

## ПАСТАРЭЛІ МАЕ ЗЕМЛЯКІ

У студзені-кастрычніку мінулага года ў рэспубліцы памерлі 96.057 чалавек. Ахвярамі алкагольнага атручвання сталі 1.183 беларусы.

Маркуючы па тым, што колькасць шлюбаў пастаянна памяншаецца і ў выніку на працягу 1992 года нарадзілася толькі 106.986 маленькіх грамадзян, у хуткім часе нацыі пагражае старэнне.

## ОЙ, ЛЮЛІ, ЛЮЛІ, КАЛЯДА!

Нават астранамічныя цэны на білеты /білет з месцам каштаваў 300 рублёў, у танцавальную залу - 250/ не перашкодзілі сапраўдным меламанам паўдзельнічаць у грандыёзным музычным марафоне "Рок на Калядзь", што адбыўся ў ноч з 6 на 7 студзеня ў Палацы спорту беларускай сталіцы.

У ім удзельнічалі вядучыя каманды былой савецкай рок-гаспадаркі.

## СПАЧАТКУ БЫЛА "ПЕСЬНЯ"

"Свята беларускай Бібліі", арганізаванае Беларускай каталіцкай грамадой пры падтрымцы акцыянернага таварыства "Кросны" адбывалася 9 студзеня.

Яно было прысвечана гадавіне выхаду ў свет скарынаўскага выдання кнігі "Песьня Песьням", адзіны на Беларусі экземпляр якой захоўваецца ў Нацыянальнай бібліятэцы.

## МАРКСІСТАМ МОЖАШ ТЫ НЕ БЫЦЬ...

Марксіцка-ленінскую філасофію выцесніла ў навучальным плане Віцебскага медыцынскага інстытута "Гісторыя Беларусі, айчыннай і сусветнай культуры".

Заняткі вядуцца на беларускай мове, што, безумоўна, спрыяе павышэнню агульнаадукацыйнага ўзроўню будучых урачоў.

МІКОЛА ДЗЯБЁЛА

## ДЫЯЛОГІ

Szanowna Redakcjo!

Z bardzo dużym zdziwieniem przeczytałem artykuł p. Dawidziuka z nr 49/92 "Niwy" a stawiający zarzut, że będąc prezesem "Towarzystwa Pomost" zajmującego się popularyzacją wiedzy o sprawach narodowościowych w Europie Śr-Wsch. i krzewieniem idei tolerancji, robię to jako bliżej nie wyjaśnioną antybiałoruską intrygę.

Ponieważ list p. Dawidziuka był przede wszystkim atakiem na moją skromną osobę, odpowiadam osobiście, jako osoba prywatna.

1. Argument że głoszenie potrzeby współpracy polsko-białoruskiej /i innych narodów Europy Środkowej/ nie może głosić członek KPN - dlatego że nim jest, uważam za absurd. A niby dlaczego tak miałoby być? P. Dawidziuk pisze, że sam fakt powoływania się na Piłsudskiego dowodzi złych intencji. W polskiej myśli politycznej i w potocznym odczuciu osobę Piłsudskiego wiąże się raczej z ideą współpracy z narodami Europy Środkowej /w opozycji do Dmowskiego, który stawiał na Rosję/ i to w oderwaniu od rzeczywiście dyskryminującej polityki narodowościowej sanacji. Każdy kto w Polsce żyje i interesuje się polityką oraz historią to wie, toteż argumentację Autora uważam tu albo za przejaw piramidalnej wręcz niewiedzy, albo złej woli.

2. W artykule z nr "0" /sygnalny/ 92 "Gazety Polskiej" użyłem cytowanego przez p. Dawidziuka sformułowania o "ważnej funkcji" Białorusi w polityce środkowoeuropejskiej, z uwagi na jej położenie geograficzne. Co tutaj wzbudziło takie jego oburzenie? Położenie geograficzne kraju jest zjawiskiem obiektywnym, niezależnie istniejącym od czyjejkolwiek woli. Rzeczą publicystyki politycznej jest dostrzeganie takich właściwości.

3. Dostrzegł p. Dawidziuk że "Pomost nie ma omal żadnego społecznego znaczenia" i że „nie stanowi przeciwwagi dla towarzystw kresowych" nie będących dla niego partnerem do rozmów. Czyli że jednak jakąś różnicę między nim a "Pomostem" dostrzega?

Nasuwa sie pytanie - ci domniemani rewizjoniści terytorialni to nie są dla Białorusinów partnerzy /co oczywiste/, ale i ci, co chcieliby w Białorusinach widzieć partnera - także nie, w/g p. Dawidziuka. No to kto z Polaków jest w/g niego tym właściwym partnerem i czy w ogóle Polacy to dla niego jakikolwiek partner? Oczywiście nie ma obowiązku Polaków lubić, ale jak się uważa, że wszyscy oni są diabła warci i tylko na prawosławnych dybią to lepiej pisać to wprost, a nie robić ludziom wodę z mózgu. Do współpracy potrzeba zawsze dwóch stron.

4. Z faktu, że będąc prezesem "Towarzystwa Pomost" jestem zarazem działaczem KPN nie wynika fakt politycznego związania tego stowarzyszenia z żadną partią - są tam członkowie bardzo różnych ugrupowań politycznych i osoby bezpartyjne /PPS, KLD/ i różnych narodowości. Z uwagi na dużą ilość pracy mam zamiar zresztą zrzec się funkcji prezesa po najbliższym Walnym Zebraniu tego stowarzyszenia.

Z poważaniem -

**TOMASZ SZCZEPAŃSKI**

## ЯК БУДЗЕМ ЖЫЦЬ?

Новы год прывітаў нас вельмі „вясёлымі" падарункамі — павысіліся цэны на хлеб, малако, тэлевізію, тэлефоны, гарэлку... Вось наведае мяне сусед і прыдзецца частаваць яго самагонкай, бо на манапалёўку маёй пенсіі замала, а з кілаграма цукру літр сам... выдушу. Падумайце, мае дарагія, з маёй пенсіі — 930000 зл. вельмі цяжка пражыць. Наш урад зусім не дбае пра народ. Пісьманосец калісьці ехаў на вёску з поўнай сумкай газет, а цяпер у яго за пазухай толькі „рэкламоўка", каб не пагубіць пенсіённых пераводаў. „Gazeta Współczesna" напісала, што „samobójcy lubią poniedziałek". Як штомесяц будуць павышаць цэны, звальняць з работы і абкладаць нас з усіх бакоў падаткамі, дык будуць вешацца і ў нядзелю, і ў іншыя дні.

Наш урад гаворыць, што няма грошай. Гэтыя казкі хай ён расказвае сабе; грошы ёсць, толькі трэба разумна іх дзяліць. Мой сусед прамучыўся 12 гадоў у лагерах Варкуты — капаў вугаль. Ён не паехаў туды на адпачынак — яго завезлі ў кайданах. І няма яму за гэта ніякай падзякі ад нашых улад. А той, хто нідзе не быў — ветэран. І дастае ён два мільёны злотых месячна.

Вось якая справядлівасць.

**ДЗЯДЗЬКА ЗАХАР**

## DOLARY, DOLARY, RUBLE, FORINTY...

Быў калісьці такі анекдот. Праститутка патае свайго кліента, адкуль ён. "Z Białegostoku", кажа той. "A, z Białegostoku, to tam, gdzie rublami płacą", канстатуе яна. У Беластоку, што праўда, рублямі нідзе не плацяць, але калі рублі патрэбныя, скажам, у сувязі з выездам за ўсходнюю мяжу, набыць іх можна без асаблівых захадаў. Нягледзячы нават на тое, што канторы абмену валюты і дзяржаўныя польскія банкі рублямі ўжо не спекулююць. Хопіць паехаць на гарадскі базар у Беластоку пры вуліцы Кавалерыйскай - "там есть всё или почти всё". Што праўда, гэта ўжо не той базар, які быў пры вуліцы Бэма - сёння на Кавалерыйскай не ўбачыш элегантнага валютчыка-франта з прышпіленым да грудзей наборам валют, які няспынна, нібыта сам да сябе, мармыча пад носам: dolary, dolary, ruble, forinty... Гандлёвыя адносіны на базары на Кавалерыйскай набылі рынкава-цывілізаваную форму. Кантораў абмену валюты налічыў я сам менш дзесятак. Кожны з іх спадзяецца, вядома ж, на добры торг з рускімі, якія збудуць з рук тавар ды наспех будуць абменьваць свае залатовачкі на долары. Рублі ў канторы на Кавалерыйскай, а гандлюючь імі толькі некаторыя, каштуюць 30-40 злотых. Што цяпер значыць 40 злотых у Польшчы? Гэта напэўна менш, чым вартая папера, на якой аддрукаваныя рублі. Валютчыкі падпірай-сцены не зніклі і на Кавалерыйскай, але ўсякі гешэфт з імі страціў ужо тую афарбоўку таемшчыны і канспірацыі, як гэта бывала за папярэдняй улады на Бэма. Дэмакратыя дазволіла ім на яўную спекуляцыю валютай - вылазіць нахабніцтва.

Кажуць, што да новага года на базары было столькі рускіх, што не прапхнуцца. Цяпер іх як бы паменшала. Ва ўсходніх суседзяў завастрыліся пашпартныя законы, падаражэлі білеты і тавар. Але едуць. Запытаў я аднаго ўкраінца, колькі яго каштавала гэтае падарожжа, не лічыўшы, зразумела, кошту тавараў, якія з сабою прывёз. Каб сесці ў цягнік і ехаць, трэба было заплаціць дзевяць тысяч купонаў і трынаццаць долараў. Наступныя кошты пачынаюцца на мытні - у залежнасці ад таго, што вязеш, гаварыў ён, трэба даць /што-колечы гэта ні азначала б/ пяць, дзесяць, пятнаццаць долараў. На некаторых кантрольна-прапускных пунктах, падумалася мне, мытны кантроль праходзіць супольна. Што-колечы гэта ні азначала б.

На базары можна набыць у рускіх шмат тавараў хатняга ўжытку - ад люстэрка і зубной пасты да тазаў. Усе мы ходзім на базар і купляем гэтыя тавары. Адным з нас, звычайна, бракуе грошай, каб схадзіць у краму за рогам вуліцы і купіць тое ж самае. Іншыя ж, хоць і маюць грошы, таксама бяруць ад рускіх, бо адчуваюць, што застануцца ў дурнях, калі прапусцяць такую нагоду. Да таго ж, на базары можна танна набыць папяросы і алкаголь. Без алкаголю, як адзначыў адзін дзядзька з Гарадка, сёння няшмат зможаш афарміць. Адкуль жа мне, кажа, пенсіянеру, браць грошы на польскую гарэлку. Вось і ўся сутнасць існавання базару ў капіталістычнай Польшчы. Без яго вялікая частка грамадства апынулася б на сацыяльнай ускраіне.

Эканамічны інтарэс на беластоцкім базары паспяхова пазбаўляе палякаў палітычна-гістарычных сентыментаў да ўсходніх суседзяў. Побач польскіх рэкламных стэндаў знаходзяцца, не ў меншай колькасці, і рускія. "Колготы оптом", "Добро пожаловать в Hetman".

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

## ХТО і ЧАГО ЕЗДЗІЎ?
### — пытаю яшчэ раз

У „Ніве" н-р 5 ад 31 студзеня г.г. быў змешчаны мой ліст адносна паездкі дэлегацыі беларусаў Беласточчыны ў Менск на І Сход беларусаў блізкага замежжа. Рэдакцыя дазволіла сабе на папраўкі ў тэксце і ў выніку ўзнікла памылка. Справа ў тым, што сказа: *На сход у Менск паехалі на сваім аўтобусе (купленым за грошы Міністэрства культуры і мастацтва) амаль усе члены Беларускага грамадска-культурнага таварыства* ў маім лісце ўвогуле не было. Справа ў тым, што я не ведаю, хто і чаго ездзіў у Менск на аўтобусе з БГКТ. Будучы тады ў Менску на сходзе я пераканаўся, што сярод удзельнікаў сходу была своеасаблівая зборная каманда БГКТ (недзе каля 50 чалавек). З іх асабіста ведаю толькі: Валянціну Ласкевіч, Эву Ласкевіч (дачка Валянціны), Янку Сычэўскага, Міхася Хмялеўскага, Уладзіміра Юзвюка, Паўла Лемеша, Аляксандра Іванюка, Аляксея Карпюка, Мікалая Мікалаюка, Васіля Сакоўскага, Любу Гаўрылюк, Аляксандра Баршчэўскага — гэта ўсяго 12 чалавек. А хто яшчэ ездзіў? Як падбіралася дэлегацыя ад БГКТ? Чаму ў Менск паехала аж 50 чалавек ад Таварыства? З такімі пытаннямі звяртаюся я да кіраўніцтва ГП БГКТ. Адказ павінен зацікавіць многіх.

**ЯН МОРДАНЬ**

**Ад рэдакцыі:** Рукапіс Янкі Морданя падчас апрацоўкі матэрыялу мы неўласціва адчыталі. Аўтара і чытачоў „Нівы" перапрашаем.

<u>Лісты ў рэдакцыю</u>

### ДАРАГАЯ „НІВА"!

Прабач, што пішу да Цябе, думаю аднак, што магу на Тваіх старонках выказаць свае думкі. Хаця ад апошняга з'езду карэспандэнтаў прайшло некалькі гадоў, безупынна ўспамінаю пра тое, што там гаварылася. Усё аднак пайшло па-іншаму і таму перастаў я пісаць. Настаў такі час, што ўсё перавярнулася. Невядома было, што думаць, куды звярнуцца. А сам я не з такіх, што „дзе вецер, там і я". Гледзячы на гэта, як хутка іншыя змянілі погляды, рашыў я прамаўчаць усё, што мяне хвалявала. Думаў, няхай час зробіць сваё, пакажа, хто мае рацыю.

Апошнім часам прышлося перажыць і пару асабістых драмаў. Троху сам хварэў. А нядаўна пахаваў бацьку. Вечная яму памяць. Добры быў чалавек, але што зробіш, лёсу не зменіш. Мне аднак далей жыць трэба. Пагадзіўся з новай рэчаіснасцю і далей шмат працую грамадска.

З увагі на гэтыя вялікія змены, шмат чаго далей не разумею. Спадзяюся, што іншыя дапамогуць мне разабрацца ў нашай навейшай гісторыі. І так падумаў я: давай напішу ў „Ніву", павіншую са Святам Раждзжаством Хрыстовым і з Новым годам. Гэты сам Мароз, які дзесяць гадоў назад пачаў пісаць у „Ніву", жадае Вам усяго найлепшага.

Шмат часу „Нівы" не чытаў і шмат чаго не ведаю. Таму хацеў бы запытаць: што сталася, што Мікалай Панфілюк пачаў у „Ніву" пісаць? Ён жа так на яе пляваў і праклінаў, проста нагамі яе таптаў. А тут маеш табе! А можа Ты, „Ніва" яго перапрасіла? А, можа, пераканала чым іншым? Гэта мяне здзіўляе! А можа Панфілюк перахрысціўся? Цяпер гэта моднае ў нас.

Калі выйдзе так, што надрукуеце гэты мой ліст, ганарар прашу пералічыць на Беларускі музей. Калі дазволіш, „Ніва", буду пісаць часцей.

**ГРЫША МАРОЗ**

**Ад рэдакцыі:** Спадар Грыша, цешыць нас, што Вы пачалі зноў чытаць „Ніву" і, найважнейшае, — пісаць нам. Дзякуем за святочныя і навагоднія пажаданні і верым, што ў „Ніве" знойдзеце адказ на шматлікія пытанні, якія вас хвалююць. Не ведаем, чаму Мікола Панфілюк змяніў свае погляды ў адносінах да „Нівы", але цешыць нас, што змяніў і лічыць наш тыднёвік сваім.

Мы лічым, што кожны павінен мець права выказацца на кожную тэму ў такой форме, у якой захоча, а як гэта зробіць, будзе толькі сведчыць пра яго. Хаця ацэньваюць нас па-рознаму тыя, што чытаюць „Ніву" і тыя, што яе не чытаюць, мы вітаем усіх на нашых старонках, таксама і тых, якія маюць іншыя погляды, чым рэдакцыя. Ведаем, што „Ніва" ёсць адзіным беларускім часопісам у Польшчы і таму для ўсіх яна адкрыта. З радасцю вітаць будзем усіх карэспандэнтаў, якія захочуць да нас вярнуцца і разам з намі рэдагаваць „Ніву".

### ДАРАГАЯ „НІВА"!

Калі ты ўжо ўсім раіш і памагаеш, дык дапамажы і нам — жыхарам вёскі Бялкі, што ў гміне Нарва.

У нашай вёсцы быў тэлефон у доме Кастуся Нікіцюка, але вонт загадаў яму плаціць 100 тысяч злотых у месяц за карыстанне апаратам. Кастусь адмовіўся ад так дарагой мэблі ў сваёй хаце.

У той момант прыехаў у нашу вёску чалавек з Беластока (называецца ён Раман), які адкрыў у нас краму ў былым ГСаўскім будынку. Па яго просьбе вонт паставіў тэлефон у краму.

У жніўні мінулага года Раман закрыў краму, а тэлефон астаўся ў будынку, пад ключом, і жыхары вёскі не маюць да яго доступу.

Нам здаецца, што гэта яшчэ горшая справа, чым у Хамантоўцах. У нас ёсць добрая лінія і тэлефон, які часам так звоніць, што чуваць яго нават на вуліцы. Ніхто толькі не падымае трубку.

Калі каму трэба пазваніць, няма іншага выхаду як толькі ісці 4 кіламетры ў Трасцянку. Часам ночу трэба будзіць чужога чалавека. І гэта ўсё ў сітуацыі, калі ў сваёй вёсцы ёсць тэлефон. Ці ж гэта не смешнае?

Вельмі просім цябе „Ніва", апублікуй наш ліст як найхутчэй. Можа наш вонт прыпомніць сабе, што ёсць такая вёска як Бялкі, і зробіць штосьці, каб тэлефон быў даступны яе жыхарам.

Наш вонт чытае „Ніву" ад дошкі да дошкі.

**ЖЫХАРЫ ВЁСКІ БЯЛКІ**

**Ад рэдакцыі:** Спадар Тапалянскі, як гэта сталася, што ў вёсцы, якой жыхары Вас шануюць і паважаюць, тэлефон ёсць, а нават яго няма?

## МЫ ЗА САЦЫЯЛІЗМ

У адной з беластоцкіх фірмаў, якой працаўнікі выконвалі інтэлектуальныя паслугі для грамадства, кіраўнік запрапанаваў некалькі варыянтаў падзелу выпрацаванага прыбытку. Трэба тут зазначыць, што працу, якую яны выконвалі, можна змерыць з вялікім працэнтам дакладнасці для кожнага працаўніка. У канцы 1992 г. працаўнікі гэтай фірмы зараблялі ад 1,5 да 2 мільёнаў злотых, што з увагі на актуальныя цэны было вельмі мала і таму, зразумела, усе былі незадаволены.

Сярод некалькіх варыянтаў запрапанаваных кіраўніком дыскутаваліся толькі два крайнія. Першы з іх — гэта такая сітуацыя, што кожны працаўнік з юрыдычнага пункту гледжання перастае быць штатным працаўніком і выконвае гэтую самую працу на рахунак. Атрымоўваў бы ён усё, што зарабіў, зразумела заплаціўшы падатак. Палічыўшы, што працавалі б так сама, кожны мог бы атрымаць каля 4 мільёнаў злотых. Але, зразумела таксама, не ўсе аднолькава працуюць. Тады адзін мог бы атрымаць 6—7 мільёнаў, другі 0,5 — 1 мільён альбо і нічога. У гэтай сістэме кожны сам за сябе плаціў бы ўсе сацыяльныя страхоўкі, калі меў бы на гэта ахвоту, а калі не — яго справа і яго рызыка. Такая сістэма давала б чалавеку магчымасць свабоднага распараджэння сваім прыбыткам, адначасова ствarала б безупынны стан няўпэўненасці ў тым, ці ён за месяц ці два будзе ў стане выканаць працу, якая вымагае інтэлектуальнай спраўнасці.

Другі варыянт, запрапанаваны кіраўніком гэта сітуацыя ў якой 50—60 працэнтаў прыбытку прадбачанага на зарплату дзеліцца менш-больш роўна паміж працаўнікоў. Кожны тады мае гарантыю, што незалежна ад укладу працы атрымае 1,5— 2 мільёны злотых. Да таго фірма аплачвае ўсе сацыяльныя страхаванні. Рэшта зарплатнага фонду прапануецца дзяліць паводле ўкладу працы. Значыць гэта, што калі хтосьці нічога не рабіў, атрымае 1,5 мільёна злотых, а той, хто вельмі многа працаваў, атрымае максімум 4 мільёны.

Калектыў, які ў большасці складаюць маладыя людзі, аднагалосна выказаўся за другі варыянт. А розніца паміж першым і другім варыянтамі адлюстроўвае дакладна розніцу паміж капіталізмам і сацыялізмам. Сацыялізм у эканоміцы гэта такі прынцып, дзе нейкая бюракратыя дзеліць грошы выпрацаваныя працоўнымі калектывамі. Людзі пагаджаюцца з такой сістэмай, ставяць толькі адзін варунак, каб гэтыя бюракраты далі сродкі, каб неяк пражыць. Гэтая псіхалагічная клетка, створаная папярэдняй сістэмай, хутка не згіне і можна сумнявацца, ці ўвогуле калі-небудзь прападзе. У Польшчы, а думаю, што не толькі тут, нягледзячы на тое, як голасна будуць крычаць „хочам капіталізму", у сапраўднасці людзі будуць думаць сацыялістычнымі катэгорыямі. Так ці інакш, сацыялізм астаецца асноўнай філасофіяй грамадства і можа ён пакуль што пераўтварыцца толькі ў нацыянальны сацыялізм.

Альтэрнатыўная мадэль — лібералізм — патрабуе пару дзесяткаў гадоў і ўпартых прапагандыстаў, каб мог ён калі-небудзь здзейсніцца. Пакуль што ліберaламі называюць сябе нейкія шызафрэнікі, якіх выбарчым лозунгам у парламенцкіх выбарах 1991 года было: „silna armia i policja". Але і Сталін называў сябе таксама дэмакратам.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**




### "СВАЕ ЛЮДЗІ" КЛІЧУЦЬ: "СТАЛІН, ВЯРНІСЯ!"

Яўген Міранові напісаў вельмі цікавы артыкул "Сталін, вярніся" /51 н-р "Нівы" ад 20 снежня 1992 г./. Я. Мірановіч даў кароткі аналіз гісторыі бальшавізму. Бальшавізм скрывіў мысленне людзей. Бальшавізм стаптаў годнасць людзей, давёў да таго, што страцілі яны пашану да культуры роднага народа і свае мовы. Людзі сталі амаль паслухмянымі робатамі. Камунізм зрабіў адну найбольшую памылку, якая давяла яго да ўпадку: аб'явіў вайну супраць Бога.

У нас у адным доме была сустрэча з веруючым у Хрыста чалавекам, які расказаў нам такую гісторыю. Чалавек быў з горада Бранска. У 1978 годзе мела ў іх быць афіцыйнае адкрыццё Малітвенага дома. Пабудавалі яго вернікі за свае ашчаднасці. І мелі такую неспадзеўку ў святочны дзень: прыпаўзлі бульдозеры і ўмомант разбурылі будынак /сёння яны спакойна будуюць новы Дом/. Такая гісторыя сёння не можа паўтарыцца. А тады, думаю, не першы гэта быў выпадак, а гэта ж быў час не пры Леніне, не пры Сталіне. Напэўна, вярхі пра гэта не ведалі і не думалі, бо мелі "сваіх людзей", якія дбалі пра тое, што трэба зрабіць. А цяпер гэтага не зробяць, хоць не зніклі раптам тыя людзі, бо за гэта цяпер можна папасці за краты! Не зробяць, але, напэўна, душа ў іх крычыць: Сталін, вярніся!!! А ёсць і такія, што выходзяць на плошчы і афіцыйна крычаць, каб вярнулася мінулае.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

## ЗАЗІМАК НАД ІСЛАЧЧУ

Мой выезд у Рэспубліку Беларусь рыхтаваўся здаўна. Задума выйшла ад мяне; у Мінску адмоўчваліся. Я не хацеў на іхны там кошт; рублі настолькі танныя, што мог рызыкаваць і ўласнай кішэню. Цэлўся ў Дом творчасці "Іслач", на тыдняў тры і з жонкаю. Наколькі памыліўся, аказалася пасля...

Тым часам чакалі аўтарскія сустрэчы ў Гдыні і ў Гданьску, у першай дэкадзе снежня. Добра склалася: тут мае адчыніцца акно на свет Беларускай Дзяржаве, арэнда пад бел-чырвона-белым сцягам часткі вялікага гандлёвага порта. У Гдыні пра гэта чулі. Ведаюць нават кандыдата на беларускага консула сюды. Мужчына ён паказаўся дзялецкім... Не спадабаўся ў адным: цёмны ў гісторыі Беларусі і ее культуры, з менталітэтам маскаля. Тыпова часовы чалавек ад няма-лепшых.

Канчалася фамільная вячэра ў сваяцкіх Кулакоўскіх. Галава радзіны Мікалай - родам з Азяранаў Вялікіх, што за Крынкамі, - расчыніў высокапаважаровае двухаконне на адлiжнае мора. - Глянь, - сказаў ён, - на рэйдзе не свеціцца аніводзін карабель. Ніколі так пуста не было, вер мне, капітану далёкага плавання. Будзь наша Беларусь з грашыма, палякі адступяць ёй больш, чым яна таго хоча, і то ў крэдыт.

Яго польска-гданьскі зяць дае зразумець, што беларуская мова яму не перашкаджае; зусім экзатычных наслухаўся ў Алжыры і на еўрапейскім поўдні, бывалы хлопец.

Беларуская прысутнасць на Балтыцы зрабілася абавязковай тэмаю ў гутарках. Нават з ліцэістамі ў школе, у якую хадзіў некалі сам Гюнтэр Грас. І ў асабняку Стэмпаў на Хважне, знаёмых яшчэ з тых часоў, калі ехалася ў Гданьск без пэўнасці не быць арыштаваным. І за рыбным абедам у маткі Мацея Лісіцкага, сына бацькі аднекуль з Магілёўшчыны. Як бы на развітанне ў трохдзённы побыт - вечар за кубкам кавы з піроэкным, з тутэйшымі дзеячамі. Маладымі, барадатымі; інтэлектуальна ўчэпістымі. - Якою яна будзе, Беларусь?

У Беластоку ўжо даганіла мяне пісямко ад кашубскага ваяводы Юзэфа Бажышкоўскага: шкадуе, што пра маё знаходжанне толькі прачытаў у газетах. У яго ёсць справа да мяне?

На беларускай мяжы за Кузніцай, чатырнаццатага снежня, да маіх з Таняй сакваяжаў рускамоўныя мытнікі і не дакрануліся. Чырвоназорны афіцэр Памежнай варты кудысьці хадзіў з нашымі пашпартамі / выбраліся мы ў дарогу рэйсавым рафікам Беласток - Гродна/. Да кантрольнага пункта на іх баку стаяла сямікіламетравая чарга "масквічоў", "запарожцаў", "ладаў". Уражанне ад гэтага такое, як быццам пачалася невядомая нам вайна, эвакуацыя. На збочынах шашы гарацъ вогнішчы, людзі гатуюць у каструлях ежу, абмываюць твар снегам.

Дакладна праз семнаццаць дзён, трыццаць першага, Рэспубліка Беларусь утворыць сваю армію. Прэзідэнт Станіслаў Шушкевіч пацвердзіць факт надрукавання нацыянальнай валюты. Але, засланяючыся дзяржаўнай таямніцай, не выявіць ён яе назвы ані тэрміну ўводу ва ўжытак. Рускі рубель стаўся нявыгадным, высмоктвае тавары ў ненаедную Расію. На месцы даведаюся: у спажывецкіх крамах трэба мець з сабою "зайчыкі" - правізорныя грошы Рэспублікі.

У Мінск, а гэта пад трыста кіламетраў, перлiся без перапынку аўтобусікам на паўсотні месцаў. У поўным камфорце арыстакратычнай язды. Акрамя двух шафёраў на далёкую дыстанцыю, сядзела ў гэтай аграмадзіне з фіранкамі нас трое: Таня, я, і мінская пасажырка. Ад нязвыклай сітуацыі трапна здагадаўся: цэны на білеты здзьмухнулі натоўпы ахвочых падарожнічаць.

На тратуары ля сталічнага аўтавакзала пераступіў дарогу вёрткі таксіст. Загаварыў пра тры долары за паслугу /за адзін давалі тады больш паўтысячы рублёў/. Я - яму пяцьдзесят тысяч злотых. Дарэмшчына! Першы раз спадабаліся мне парадкі ў Польшчы.

*/Працяг будзе/*

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

## ДЭМАКРАТЫЯ І МЫ

З'яўляемся мы ўдзельнікамі і сведкамі вялікамаштабных пераўтварэнняў у палітычным, грамадскім, эканамічным і культурным жыцці Польшчы ды іншых краін Сярэдняй і Усходняй Еўропы. Разважныя і адказныя палітыкі выказваюцца за дэмакратычную мадэль дзяржаўнага ладу, з цэлай яе ўмеласцю сужыцця паводле пэўных правілаў таго, што разнароднае і канфліктнае, а перад усім людзей, народаў і рэлігій. Нядаўна ў „Газеце выборчай" Адам Міхнік пісаў: „Дэмакратычная дзяржава гэта прававая дзяржава. У такой дзяржаве тое, што законам не забаронена, ёсць дазволенае. Штодзённае жыццё рэгулююць не толькі канстытуцыя і крымінальны кодэкс, але таксама сістэма пазаюрыдычных нормаў. Гэтыя нормы прычыняюцца да таго, што грамадства не ёсць толькі зборышчам чужых і варожых сабе індывідуумаў, але з'яўляецца супольнасцю, якая жыве ў „супольным доме" і карыстаецца сістэмай супольных знакаў, звычаяў і вартасцяў. Усведамленне істоты гэтай супольнасці правілаў — хаця б поўнай канфліктаў —дапамагае кожнаму з нас адчуваць сябе „ў сябе", дазваляе гэтаксама быць індывідуальнасцю адоранай натуральнай чалавечай годнасцю, а не млекакормячым, якое клапоціцца толькі аб ежу і фізічную бяспечнасць".

Незалежна ад вышэй сказанага, у мяне складаецца ўражанне, што на працягу некалькіх апошніх гадоў беларусы Беласточчыны ў асноўнай сваёй масе не паверылі ў дэмакратыю, а многія яна нават дужа напалохала. Прычыны такога стану самаадчування напэўна розныя і даволі складаныя — гістарычныя, псіхалагічныя, эканамічныя ды дзесяткі іншых. Думаю аднак, што ўсё-такі самымі вырашальнымі былі свядомыя або несвядомыя, але напэўна неразважныя крокі, учыненыя новымі палітычнымі элітамі ў рэгіёне. Гэтыя эліты не ўмелі і надалей хіба не ўмеюць, а можа проста не хочуць, глянуць шырэй як праз прызму польскага этнацэнтрызму або беластоцкага засценка. Дэцэнтралізацыя ўлады трапіла тут якраз на грунт, дзе яшчэ таўкуцца састарэлыя рэсэнтыменты, так умела маскіраваныя папярэднімі камуністычнымі ўладамі. Адчуваецца рэальную ізаляванасць усяго беларускага грамадска-палітычнага руху, якая таксама адмоўна ўздзейнічае на псіхіку незвычайнай пакорлівасці нашага народа.

Чалавек не абмежаваны нічым — гэта асоба адкрытая ў адносінах да іншых. Многа ўзаемнай варожасці вынікае з адсутнасці элементарных ведаў аб другім чалавеку, яго культуры, рэлігіі, поглядах. Асабліва ў гарадах жывем у акружэнні польскамоўя — польская школа, польскае тэлебачанне, польская вуліца. Не сумняваюся, што не адзін мясцовы баламут або „гісторык" глядзіць на беларусаў як на безназоўнае племя, як на „субкватарантаў" без уласнай культуры і нацыянальнай гордасці, як, у рэшце рэшт, на этнічны матэрыял. Многатыражныя газеты ў Беластоку раз за разам адрэагоўваюць на нас сваю агрэсію і фрустрацыі. Рэдкае публічнае выступленне беларуса за свой нацыянальны гонар нават сваімі ўспрымаецца як парушэнне адвечнага табу, а часам — як замах на польскасць.

Перш за ўсё так гістарычна атрымалася, што ў народзе ёсць велізарныя пласты няведання свaёй спадчыны, а таксама завалы невуцтва і нацыянальнага нігілізму. Мы перасталі быць „у сябе". Калі не шануем сябе, тады правакуем іншых, тых менш культурных, выклікаем іх нецалерантныя паводзіны. А талерантнасці, зразумела, ніхто не навучыць дэкрэтамі і пастановамі — гэта працэс на некалькі пакаленняў.

Знакам нашага часу стаў інтэнсіўны працэс пераходу беларусаў на палякаў, праваслаўных з мешаных сужонстваў на католікаў, быццам на нейкія вышэйшыя ступені чалавечнасці. Немагчымы аднак поўны адыход ад мінулага, роднага ды... сваёй скуры. Таму самапаланізацыя і змена веравызнання найчасцей адбываецца ў якасці гвалту на сваім уласным духу, на тутэйшым беларуска-праваслаўным менталітэце.

Напрыклад, залежна ад сітуацыі, ірытуе або смешыць мяне перабольшанае „мазуЖэнне" нашых з найніжэйшага чыноўнічага стану як сродак супраць нядаўняму яшчэ „следзікаванню". Гэтая новая „філасофія" пасіўнай крыптабеларускасці найменш сёння відна сярод многіх прадстаўнікоў сярэдняга пакалення.

Нельга забываць, што жывем мы ва ўмовах глыбокага гаспадарчага крызісу. Падаюць прадпрыемствы і фабрыкі ў гарадах, у дэмаграфічнай і эканамічнай агоніі нашыя вёскі. Людзі сталі цынічнымі, абыякавымі, эгаістычнымі. У жорсткай рэальнасці паўсюдна найважнейшымі сталі справы ўласнага носа. Прападае грамадская ініцыятыва. Рэчаіснасць прыгнятае слабых, сумненне распальвае страх пра заўтра, паралізуе перспектыўныя дзеянні. З другога боку добра бачым матэрыяльнае асляпленне тых, якія багацеюць.

Абстрагуючы ад постсацыялістычных эканамічных рэаліяў, трэба ўрэшце сказаць, што беларуская нацыянальная меншасць у Польшчы мае добрыя патэнцыяльныя ўмовы захавання сваёй тоеснасці: значны агульны лік насельніцтва, адну, цэласную тэрыторыю з перыферыйным — у аднясенні да галоўных цэнтраў краіны — месцараспалажэннем, малую індустрыялізацыю, нядрэнны стан экалогіі, адукаванасць маладых пакаленняў.

*(заканчэнне будзе)*

**ЮРЫ БАЕНА**

 

# ХРЫСЬЦІЯНСКІЯ КАНФЭСІІ НА БЕЛАРУСІ СЁНЬНЯ

*Мы, беларусы, якія жывем на Беласточчыне, у знакамітай большасці праваслаўнага веравызнання, найчасцей уяўляем сабе, што нашыя сурodзічы ў Рэспубліцы Беларусь таксама амаль аднаканфесійныя. Артыкул Юры Шаўцова змешчаны ў віленскай "Нашай Ніве" паказвае, як складаная рэлігійная сітуацыя існуе на Беларусі і як нашыя беластоцкія ўяўленні размінаюцца з рэчаісным вобразам.*

*Паясняем адначасова, што каментарыі аўтара ніжэй змешчанага артыкула не ўва ўсім зыходзяцца з поглядамі рэдакцыі.*

Рэд.

* * *

Тэрыторыя сучаснай Беларусі падзяляецца на выразныя культурныя рэгіёны: Заходнюю і Усходнюю Беларусь. Гэты падзел праходзіць па лініі савецка-польскай мяжы 1921-1939 гадоў. У выніку пазьнейшага далучэньня Заходняй Беларусі да СССР і мякчэйшага палітычнага рэжыму там разьмяшчаецца абсялютная большасьць рэлігійных суполак краіны. У 1981 г. у вадной толькі Берасьцейскай вобласьці было 147 праваслаўных прыходаў з агульнага ліку 300, у вадной Гарадзенскай вобласьці - 122 каталіцкія парафіі з агульнага ліку 161. У той жа Берасьцейскай вобласьці ў 1990 г. налічвалася 124 толькі зарэгістраваныя суполкі Эвангельскіх Хрысьціянаў Баптыстаў /ЭХБ/, Хрысьціянаў Веры Эвангельскай /ХВЭ/ ды іншых нэапратэстантаў з агульнага ліку 163. У рамках Заходняй Беларусі вылучваецца малым лікам касьцёлаў Берасьцейская вобласьць. Межы гэтага праваслаўнага краю практычна супадаюць зь мяжою палескіх дыялектаў, якая праходзіць прыблізна праз Белавескую й Ружанскую пушчы ды рэкі Ясельда-Прыпяць-Гарынь зь невялікімі адхіленьнямі на поўнач. Касьцёлы й цэрквы ў васноўным разьмешчаныя ў вёсках, дзе жыве амаль палова насельніцтва Заходняй Беларусі. Ва Усходняй Беларусі ў вёсках жыве каля 25% насельніцтва. На тэрыторыі Заходняй Беларусі захавалася традыцыйная вясковая рэлігійная суполка, г.зн. і касьцёл і царква тут зьяўляюцца канфэсійнай формай існаваньня традыцыйнай сялянскай культуры. Асаблівасьць царкоўнай сытуацыі ва ўсёй Беларусі - цесная сувязь канфэсійнай прыналежнасьці з этнічнай самасьвядомасьцю: каталік - паляк, праваслаўны - беларус альбо расеец. У значнай ступені гэта вынік сьвядомай палітыкі клеру абедзьвюх канфэсій.

### Праваслаўная царква

Своеасаблівай праваслаўнай краінай зьяўляецца Заходняе Палесьсе, дзе людныя праваслаўныя вясковыя суполкі мяжуюць адна з адной, зьліваюцца ў суцэльны рэгіён. Праваслаўныя сьвятары тут звычайна - зь мясцовых жыхароў, пераважна са Столінскага раёну, яны добра валодаюць тутэйшымі дыялектамі, але маюць кепскую багаслоўскую адукацыю, бо адзіная на Беларусі Жыровіцкая сэмінарыя ня ў стане забясьпечыць кадрамі ўсе прыходы на Беларусі. Таму іх казань мае ня столькі эвангелічны, колькі маральны характар. Амаль поўная адсутнасьць тут польскага касьцёлу спрыяе ўнутранай кансалідацыі гэтага рэгіёну ў васаблівы этнакультурны рэгіён Беларусі, дзе праваслаўная царква прэтэндуе на значную культурную й палітычную ролю. У вастатніх рэгіёнах Заходняй Беларусі праваслаўная царква ўцягнутая ў канкурэнтнае процістаяньне з касьцёлам, што рэзка адрозьнівае яе паводле характару дзейнасьці ад царквы заходнепалескай. Для праваслаўных Гарадзеншчыны характэрная большая доля нацыянальнага кампанэнту ў рэлігійным жыцьці.

Ва Усходняй Беларусі на 1987 год царква амаль што не йснавала. На адміністрацыйны рэгіён прыпадала 1 ці 2 храмы. Не было й традыцыйнай сельскай суполкі - і таму, што тут прайшлі больш жорсткія й працяглыя камуністычныя рэпрэсіі, і таму, што больш рэзка зьменшылася ў працэсе урбанізацыі вясковае насельніцтва. Такім чынам, праваслаўная царква ва Усходняй Беларусі была зьяваю маргінальнаю, царквою часткі пажылых людзей. Для яе ня быў характэрны ані нацыянальны, ані традыцыяналісцкі кампанэнты ў казані, тут панавала голая абрадавая форма, якую праводзілі нетутэйшыя паводле паходжаньня й рэлігійна пасыўныя сьвятары.

З 1988 г. пачаўся хуткі рост ліку прыходаў РПЦ па ўсёй Беларусі. У 1992 г. іх стала ўжо 670, прычым у Берасьцейскай вобласьці - каля 240. Гэты працэс узмоцніў рэлігійную разьяднанасьць праваслаўнай царквы на Беларусі: на Заходнім Палесьсі актывізавалася праваслаўная суполка і ўзьнікла патрэба стварэньня рэлігійных праваслаўных палітычных ды іншых арганізацыяў /у 1988 г. у Берасьці праходзілі масавыя дэманстрацыі праваслаўных, якія патрабавалі хутчэйшага вяртаньня цэркваў і пагражалі агульнагарадзкім страйкам; улады былі вымушаныя адступіць/, адной з мэтаў якіх будзе - не дапусьціць пранікненьня ў рэгіён каталіцызму. Ва Усходняй Беларусі - патрэбная простая рэстаўрацыя вернутых і будаўніцтва новых храмаў ва ўмовах адсутнасьці царкоўнай суполкі. Тут перад царквою стаіць праблема першаснай эвангелізацыі насельніцтва. У Гарадзенскай вобласьці больш дынамічны касьцёл пагражае перацягнуць да сябе праваслаўных гараджанаў і ставіць царкву перад праблемай простага выжываньня. Апрача гэтага, перад усёй праваслаўнай царквой устала пытаньне пра адносіны да беларускага нацыянальнага руху й камуністычных па сутнасьці ўладаў. РПЦ ня можа ператварыцца ў беларускую нацыянальную царкву ня толькі таму, што беларускі нацыяналізм мае антырасейскую скіраванасьць, але й таму, што:

1/ цэнтр праваслаўя на Беларусі знаходзіцца на этнічна своеасаблівай тэрыторыі, і адсюль ня можа быць імпульсаў да беларусізацыі царквы, больш таго, мясцовы клер здольны паралізаваць любую такую спробу;

2/ праваслаўная царква ня можа процістаяць місыянэрскай дзейнасьці больш адукаваных і не скампрамэтаваных супрацоўніцтвам з камуністамі ксяндзоў, асабліва ў гарадох.

3/ грандыёзная праграма будаўніцтва й рамонту храмаў пры слабой праваслаўнай суполцы вымагае супрацоўніцтва з уладамі. А камуністычныя ўлады арыентаваныя на захаваньне хоць у якой форме СССР. Захаваньне СССР-Расеі падаецца РПЦ на Беларусі адзіна магчымым спосабам выйграць час дзеля свайго адраджэньня ў маштабе ўсяе краіны, пасьля чаго яна, магчыма, будзе здольная процістаяць касьцёлу і без падтрымкі дзяржавы;

4/ беларускі нацыянальны рух мае ў большай ступені каталіцка-ўніяцкае адценьне ў сілу сваёй "антырасейскасьці", і зь ягоных нетраў ужо нарадзілася спроба аднаўленьня ўніяцкай царквы: створаныя 11 уніяцкіх суполак, дзе сканцэнтраваныя ці ня лепшыя сілы беларускай інтэлігенцыі.

### Каталіцкі касьцёл

У 1987 г. на Беларусі была 161 каталіцкая парафія, у 1991 - 244. Адкрытая сэмінарыя ў Горадні, а недахоп клеру пакрыты за кошт прыезду з Польшчы 80 ксяндзоў. Касьцёл прыстасаваўся да беларускай рэальнасьці: акрамя Гарадзенскай, створаная новая Менска-Магілеўская дыяцэзія. Яе ўзначаліў Казімір Сьвёнтак /Пінск/, які захаваў за сабой кіраваньне касьцёлам на Палесьсі. Праблему палянізацыі беларусаў-католікаў К. Сьвёнтак заціняе тэзісам пра тое, што касьцёл на Беларусі мусіць быць беларускім за выключэньнем "этнічна польскіх" раёнаў. Гэтак апрабоўваецца палітыка стварэньня ў новай дыяцэзіі, дзе касьцёл слабы, беларускага касьцёлу, а ў Гарадзенскай вобласці - захаваньня па сутнасьці польскага. У Менска-Магілеўскай дыяцэзіі касьцёл часта робіцца цэнтрам беларускага нацыянальнага адраджэньня: гарады Магілеў, Гомель, у нейкім сэньсе Менск. Але ў цэлым праз яго працягваецца палянізацыя беларусаў, што абвастрае нацыянальна-канфэсійныя супярэчнасьці: канфлікты праваслаўных - каталікоў у вёсцы Вярэйкі Ваўкавыскага раёну, у Полацку й г.д. У грамадзкай сьвядомасьці з касьцёлам зьвязваецца заходняя, нерасейская арыентацыя, што дадаткова спрыяе яго росту й яшчэ больш паслабляе антыкаталіцкі патэнцыял РПЦ.

### Пратэстанцтва

Яшчэ больш ускладняе канфэсійную сытуацыю на Беларусі вялікая колькасьць нэапратэстантаў: баптыстаў, эвангелістаў, адвэнтыстаў 7-га дня й г.д. Узьніклі яны пераважна ў 20-я гады ў Заходняй Беларусі, перажылі камуністычныя рэпрэсіі і нават у цэлым павялічылі свой уплыў. Праўда, у пасьляваенныя гады іх цэнтар зьмясьціўся на Заходняе беларуска-ўкраінска-польскае Палесьсе. На сёньняшні дзень на Беларусі ёсьць прыкладна да 200 суполак пратэстантаў, зь іх 3/4 - у Берасьцейскай вобласьці. Такая канцэнтрацыя пратэстантаў у гэтым рэгіёне тлумачыцца перадусім панаваньнем праваслаўя, якое лягчэй саступае пратэстантызму, чым каталіцызму. І ў Гарадзенскай вобласьці пратэстанцкія суполкі растуць пераважна за кошт праваслаўных.

Пратэстанцтва ёсьць самая дынамічная канфэсія на Беларусі; якая мае вялікі досьвед падпольнай дзейнасьці ва ўмовах камуністычных рэпрэсій, якая захавала памяць пра рэпрэсіі праваслаўных уладаў дарэвалюцыйнай Расеі і каталіцкіх - даваеннай Польшчы. Сацыяльная база пратэстанцтва - занятае пераважна прыватнай гаспадаркай сялянства ды насельніцтва гарадзкіх ускраінаў. Пратэстанты, якія маюць вельмі моцнае пачуцьцё карпаратыўнай салідарнасьці, здолелі забясьпечыць сваім сябром значна больш высокі ўзровень жыцьця, чым іншыя канфэсіі. Добра прыстасаваныя да ўмоваў рынку, яны могуць эвалюцыянізаваць у рэлігію сярэдняе клясы калі ня ўсёй Беларусі, дык прынамсі Заходняга Палесься, дзе гэта ў значнай ступені ўжо адбылося. Пратэстанцкія суполкі аб'ядноўваюць пераважна беларусаў /беларусаў-палешукоў/, і хоць яны не надаюць значэньня нацыянальнаму фактару, рэальны рост пратэстантызму паслабляе расейскі ўплыў на Беларусі, бо разбурае перадусім РПЦ. Ва ўмовах Заходняга Палесься пратэстанты здолелі ператварыцца ў другую пасьля праваслаўя канфэсію і хутка пераймаюць сабе функцыю асноўнага захавальніка мясцовага традыцыяналізму, надаючы яму дынамічны, экспансіяністкі характар. З прыходам да ўлады на Украіне нацыянальна арыентаваных сілаў была уведзеная ў пэўным сэньсе мяжа распаўсюджваньня пратэстантызму з Заходняга Палесься: пратэстанты на Украіне былі вымушаныя адмовіцца ў вапошнія гады ад будаўніцтва малельных дамоў больш чым на 300 чалавек. А на Беларусі яны сёньня маюць добрыя ўмовы для разьвіцьця й разгарнулі вялікую праграму будаўніцтва буйных малельных дамоў, у тым ліку на 1800 месцаў у Кобрыне, на 1500 - у Альшанах Столінскага раёну і ў Баранавічах, на 1000-1500 месцаў - у Берасьці, у вёсцы Вялікае Малешава Столінскага раёну й г.д.

Пратэстанты ўхіляюцца ад міжнацыянальнай барацьбы й прымаюць да сябе новы паток нэафітаў, якія жадаюць спакою й стабільнасьці. У той жа час для іх характэрнае чаканьне новае хвалі перасьледу пасьля прыходу да ўлады ўстойлівага ўраду альбо пракаталіцкай апазыцыі, альбо прыхільнай да праваслаўя прамаскоўскай намэнклятуры. Спыніць пашырэньне пратэстанцтва сёньня немагчыма, бо з дапамогаю сілы гэтага ня здолелі зрабіць нават камуністы, канфэсійнай канкурэнцыі касьцёлу перашкаджае прапольская арыентацыя, а праваслаўя - духоўны крызіс царквы. Больш таго, першасная эвангелізацыя Усходняй Беларусі ў выглядзе адраджэньня праваслаўнае царквы на самой справе нясе на сваіх плячох у гэты рэгіён пратэстанцтва, таму што навучыўшы чалавека верыць у Бога, праваслаўны сьвятар, як правіла, ня можа даказаць яму, што пратэстант верыць менш ці што ў праваслаўнай царкве больш маральнасьці; рост нацыяналізму на базе праваслаўя манапалізаваны расейскай нацыянальнай ідэяй, ня вельмі папулярнай на Беларусі, таму праваслаўны вернік, сутыкнуўшыся з ксяндзом-палякам, даволі лёгка становіцца пратэстантам.

Хуткае адраджэньне масавае рэлігійнасьці беларусаў ва ўмовах слабой нацыянальнай сьвядомасьці вядзе да ўзмацненьня міжканфэсійнай напружанасьці на Беларусі; імкненьне шматнацыянальных цэнтраў выкарыстаць традыцыйныя канфэсіі ў асыміляцыйных мэтах прывяло да немагчымасьці сёньня выпрацаваць дзяржаўную канфэсійную палітыку, што спрыяе кансэрвацыі нізкага ўзроўню нацыянальнае сьвядомасьці беларусаў і далейшаму высьпяваньню міжканфэсійных супярэчнасьцяў. Абвастрэньне міжканфэсійнай барацьбы спрыяе росту значэньня рэгіянальных культураў і адпаведных сэпаратызмаў. Рэгіянальна-канфэсійныя каштоўнасьці становяцца больш важным за агульнанацыянальныя. У агульным процістаяньні канфэсій прайграе вядучая - праваслаўе. За кошт яго ўзмацняецца каталіцызм /польскі й беларускі/ і партэстанцтва. Магчымасьць міжканфэсійнае згоды зрываецца зьяўленьнем новай агрэсыўнай канфэсіі - пратэстанцтва. Адзінае выйсьце з гэтага канфліктнага разьвіцьця - у захаваньні масавае рэлігійнае індыфэрэнтнасьці беларусаў, што малаверагодна з-за дзейнасьці замежных місіянэраў і наяўнасьці большае колькасьці сельскіх жыхароў - апірышча традыцыяналізму й рэлігійнасьці.

* * *

Культурная сытуацыя ў Віленскім краі прынцыпова не адрозьніваецца ад сытуацыі на Гарадзеншчыне, асабліва што датычыць нелетувіскага насельніцтва. Таму Віленшчына ўваходзіць у арэал беларускіх канфэсійных праблемаў. Тут таксама праваслаўе перажывае крызіс і ня можа актыўна процістаяць каталіцызму й пратэстанцтву. Невялікая колькасьць праваслаўных прыходаў у Летуве, не дазволіла ўзьнікнуць тут вялікай колькасьці пратэстантаў, а за кошт каталіцкага асяродзьдзя гэта адбываецца цяжэй. Аднак тыя пратэстанцкія суполкі Летувы, якія ўжо ёсьць, складаюцца ў значнай ступені зь беларусаў, напрыклад, баптысцкая суполка ў Вільні. Пратэстанты Летувы наогул канцэнтруюцца ў васноўным у Віленскім краі. Пачаўся пераход пратэстантызму на каталіцкае летувіскае насельніцтва: царква "Слова веры" ды інш. Досьвед Вугоршчыны, Чэха-Славаччыны, Польшчы сьведчаць, што каталіцкі касьцёл у посткамуністычных краінах не заўсёды здольны спыніць нэапратэстантаў. І калі ў Летуве пратэстанцтва здолее ператварыцца ў канфэсію значнай часткі якой-небудзь этнічнай ці тэрытарыяльна-культурнай групы /дзукаў, напрыклад, ці летувісаў Віленскага краю, што больш верагоднае/, дык можна чакаць паўтарэньня сытуацыі зь беларускім Заходнім Палесьсем, калі новая канфэсія прыводзіць да культурнага расколу нацыі. Зь іншага боку праваслаўе на Беларусі ўвогуле ня можа змагацца з каталіцызмам, які мае натуральныя духоўныя цэнтры ў выглядзе віленскіх храмаў і традыцый, без звароту да сваіх храмаў і традыцый. Невядома, ці будзе гэта ў рэчышчы западноруссизма ці беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, але імкненьне выкарыстаць віленскія сьвятыні ў мэтах міжканфэсійнага процістаяньня на Беларусі будзе нарастаць. Дарэчы, гэта неабходна й мясцовай праваслаўнай царкве дзеля яе элемэнтарнага фінансавага выжываньня. Ня можа абмінуць віленскія касцёлы й беларускі нацыянальны касьцёл. Гэта значыць, што Віленшчына ня толькі ўваходзіць у бурлівы арэал міжканфэсійнай барацьбы на Беларусі, але й атрымлівае адтуль своеасаблівыя культурныя імпульсы.

**ЮРЫ ШАЎЦОЎ**
"Наша Ніва" н-р 8, 1992 г.



 

## У ТРАСЦЯНЦЫ НЕ ПАДАЮЦЬ ДУХАМ

Настаўнікаў нельга дзяліць на вясковых і гарадскіх, сказала мне Марыя Смактуновіч - настаўніца ў Пачатковай школе ў Трасцянцы. Настаўнік, вучыць ён на вёсцы ці ў горадзе - гэта адзін і той жа чалавек. Падзел такі, зразумела, можна рабіць з увагі на варункі працы. Я тут вучу, працягвала спадарыня Марыя, ужо 15 гадоў. І, як то на вёсцы, даводзіцца выкладаць па некалькі прадметаў. Я вучу польскай мовы, біялогіі і пластыкі. У вясковай школе той адзін добры бок, што мала вучняў - праца тут нагадвае крыху працу ў грамадскай школе, якія цяпер адчыняюць у гарадах. Мала вучняў, а значыць да кожнага з іх можна падыйсці індывідуальна. Кепскае тое, што трэба злучаць класы ды праводзіць урокі I i II, III i IV і гэтак далей класаў разам. У школе цяпер 56 вучняў, якія падзеленыя на чатыры аддзелы плюс прадшкольны аддзел. Напэўна няма тут такога абсталявання як у горадзе, але з другога боку, далёка не шукаючы, возьмем такую школу ў Нарве - ці знойдзеш цяпер другую такую ў ваяводстве?

Дзеці сёння, гаварыла Марыя Смактуновіч, маюць як бы менш часу на навуку. Адцягвае іх ад гэтага тэлебачанне і відэа. Нельга сказаць, што гэта зусім дрэнна, бо ж шмат там адукацыйных перадач усякага віду. Няма цяпер у школе гурткоў, у якіх можна было б працаваць са здольнымі дзецьмі па-за ўрокамі. На такія заняткі няма грошай у бюджэце, а які настаўнік захоча цяпер працаваць грамадска? Такая праўда. Сама памятаю, як у семідзесятых гадах ездзіла я са сваёю вучаніцай Малгажатай Драўноўскай з Анцут на агульнапольскія спартыўныя спаборніцтвы. Цяпер на такія дадатковыя заняткі няма грошай, а каб да нечага дайсці трэба з вучнем працаваць ужо з I класа.

Значыць, перабівае дырэктар Багдан Назарка, трэба вучыць абы-як, на тройку. Гэтае абмежаванне бюджэту давядзе да развалу асветы. Возьмем гэтыя ўсялякія конкурсы - настаўнік рыхтуе вучня, рыхтуе, едзе з ім на конкурс у раён, а пазней цішыня, ніякага адказу. Я сам ужо некалькі разоў "перазхаўся" на гэтых конкурсах. Найгоршае ў гэтым тое, што вучань дапытваецца пра вынік, а ты не ведаеш, што яму адказаць. І гэта знеахвочвае.

У школе ў Трасцянцы працуе сем настаўнікаў - трох з Гайнаўкі, трох з Нарвы і адзін з Беластока. Усе яны даязджаюць. Гэтыя даезды, сказаў дырэктар, несумненны клопат для нас. Аднак, я так адчуваю, з цягам часу ўсе мы да гэтага прызвычаіліся - даезд з'яўляецца часткай штодзённага плана працы. Сама школа з'яўляецца самаўрадавай, падпарадкаваная яна войту. Гэтай самаўрадавасці, сказаў дырэктар Назарка, занадта то мы не адчуваем, але з другога боку не магу сказаць, каб нешта нам валілася на галаву, як гэта бывае цяпер у шмат якіх дзяржаўна-куратарыйных школах. Школе ў Трасцянцы, у якой я дырэктарам, даваліся пераважна ўсякае супрацоўніцтва з мясцовай уладай. Бывала і так, што начальнік гміны два-тры разы ў дзень клікаў мяне ў свой кабінет. Тут гэтае супрацоўніцтва добра складваецца. Войт ставіць націск на навучанне беларускай мовы, а ў нас усе дзеці вывучаюць гэты прадмет. Навучанне гэтае, праўда, усё яшчэ абапіраецца на добраахвотнасці, не то што навучанне рэлігіі, за якую "усе мы так змагаліся". Асабіста я за тое, каб школы былі свецкімі. За папярэдняе ж улады ніхто не забараняў навучаць рэлігію пры касцёлах і цэрквах. Вяртаючыся аднак да пытання беларускай мовы, з практыкі ведаю, што скасаваць гэтае навучанне вельмі лёгка, але адкруціць усю справу назад часам немагчыма. Калі быў я дырэктарам у Белавежы, рабіў старанні, каб вярнуць там навучанне беларускай мовы. Не ўдалося мне. Там даволі дзіўнае асяроддзе - ёсць крыху навукоўцаў, прыезджых вучняў, а большасць грамадства ўвогуле не ведае ў чым справа.

У школе ў Трасцянцы трэба правесці рамонт. Буду старацца, сказаў дырэктар, каб выгаспадарыць з гміннага бюджэту сродкі на гэту інвестыцыю. Калі не ўдасца, то трэба будзе сабраць мясцовае грамадства ды зрабіць гэты рамонт сваімі сіламі - іншага выйсця няма. Школу ў Трасцянцы, так ці інакш, трэба ўтрымаць. Школа тут - гэта тое, што яшчэ трымае вёску пры жыцці.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

Ліст у рэдакцыю

## ХТО І ЧАГО ЕЗДЗІЎ?

18 снежня 1992 года аказаўся незвычайным для беларусаў днём. У сталічны Менск прыехалі прадстаўнікі беларускіх таварыстваў, суполак і паасобных асяроддзяў з розных раёнаў былога Савецкага Саюза. Пасля распаду імперыі многія беларусы апынуліся ў чужых краінах: Летуве, Латвіі, Эстоніі, Украіне, Малдове, Закаўказзі ды на агромністых абшарах Расеі і Сярэдняй Азіі. Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" склікала на 19-20 снежня мінулага года першы сход беларусаў гэтак званага "блізкага замежжа" дзеля абмеркавання і вырашэння актуальных пытанняў, узніклых у сувязі з такой палітычнай сітуацыяй.

Мы, беластачане, апынуліся ў Польшчы раней распаду Савецкага Саюза, не з'яўляемся эмігрантамі, жывем спецыфічнымі праблемамі, але таксама належым да блізкага замежжа Рэспублікі Беларусь.

На сход у Менску паехалі на сваім аўтобусе /купленым за грошы Міністэрства культуры і мастацтва/ амаль усе члены Беларускага грамадска-культурнага таварыства (чалавек 50). Вылучаліся яны сярод іншых удзельнікаў сходу. У Менск прыехалі людзі заклапочаныя як сваім лёсам, так і будучыняй Беларусі. Супольна шукалі выхад з нялёгкай сітуацыі, у якой апынулася іхняя бацькаўшчына. У адрозненне ад іх, наша прадстаўніцтва, са старшынёй БГКТ на чале, вяло сябе бесцырымонна, выхвалялася сваім патрыятызмам, працавітасцю і адданасцю беларускай справе. Пры гэтым прадстаўнікі БГКТ наракалі на тое, што ні польскія ўлады, ні Рэспубліка Беларусь не даюць грошай на дзейнасць Беларускага таварыства. Сам старшыня ў афіцыйным выступленні на сходзе, з уласцівым яму пафасам, крытыкаваў усё і ўсіх. Прамоўцам і арганізатарам сходу прыгадаў кожны промах. Сказаў нават пра тое, што мытнікі на дзяржаўнай мяжы абышліся з дэлегацыяй БГКТ як са звычайнымі спекулянтамі. Хто быў у камандзе БГКТ? Асабіста я бачыў Валянціну Ласкевіч, Янку Сычэўскага, Міхася Хмялеўскага, Уладзіміра Ювзюка, Паўла Лемеша (гэта ж тыя самы, якія вясною штурмам узялі камп'ютэры з рэдакцыі "Нівы"). На сход бэгакатоўскім аўтобусам прыехалі таксама людзі, якія размаўлялі на беларуска-польска-рускай трасянцы ды не надта арыентаваліся ў тым, што навокал адбываецца.

Усіх удзельнікаў сходу арганізатары закватаравалі ў апартаментах гатэля "Беларусь".

Не буду пісаць, што там рабілася, але ведаю цяпер, якія формы "культурнай" дзейнасці любяць дзеячы БГКТ. У час такіх сустрэч наймацней праяўляецца сімбіёз старшыні ГП і падначаленых.

Набліжаецца чарговы з'езд Беларускага Таварыства. Добра было б, каб гэта арганізацыя спыніла свае разбуральныя дзеянні ў беларускім асяроддзі, каб урэшце стала беларускай арганізацыяй і пачала служыць свайму грамадству. Таму я як член БГКТ і нядаўні штатны працаўнік Таварыства, ужо цяпер звяртаюся да іншых радавых членаў арганізавацца і выбраць у кіраўнічыя органы не скампраметаваных інтрыганаў, але людзей адданых беларускай справе. Няхай і наша арганізацыя далучыцца да беларускай супольнасці.

**ЯН МОРДАНЬ**

## КАШКУРЭВІЧ У ВАРШАВЕ

11 студзеня г.г. у Варшаве, у галерэі Саюза польскіх мастакоў адкрылася выстаўка трох мастакоў: Анны Тычынскай з Познані, Паўла Болтрыка з Варшавы і Ігара Кашкурэвіча з Менска.

Для Ігара гэта другая персанальная выстаўка ў Польшчы. Першая адбылася ў лістападзе-снежні мінулага года ў беластоцкай галерэі Бюро мастацкіх выставак "Арсенал". Пісаў пра яе, як і пра самога мастака ды ягоную творчую манеру Ян Максімюк ("Ніва" № 50 за 1992 г.).

Куратарам абедзвюх выставак была Магдалена Гадлеўская-Сіверская. Паміж беластоцкай і варшаўскай, аднак, была заўважальная розніца. Не ўсе палотны пераехалі з Беластока ў сталіцу, толькі тыя спакайнейшыя, з лагодным пераходам колераў. Не паказваліся ў Варшаве самыя яркія, кантрастныя, крыклівыя.

Галерэя Саюза польскіх мастакоў на вуліцы Мазавецкай ёсць месцам прэстыжным. Калі хтосьці выстаўляе там свае працы, яго абавязкова заўважаць у мастацкіх сферах Польшчы. Для Ігара гэтая выстаўка - пасведчанне яго далёка не перыферыйнага месца ў сённяшнім мастацтве і шанц на далейшае развіццё таленту.

**М.В.**

## НА СПАРТЫЎНАЙ НІВЕ

Нядаўна адбыліся спартыўныя спаборніцтвы вучняў падставовых школ у Беластоцкім ваяводстве - у скоках у вышыню і ў кіданні ядром.

135 сантыметраў - быў гэта найлепшы вынік у скоках у вышыню школьніц. Такога рэзультату дабілася Бася Вясялоўская, вучаніца Падставовай школы н-р 3 у Бельску-Падляшскім і Ася Надольная з Падставовай школы н-р 2 у Васількове каля Беластока.

Добра зарэкамендавалі сябе на гэтых спаборніцтвах юнакі з бельскай "тройкі": Войтэк Цар /пераскочыў ён папярочку на вышыні 155 сантыметраў ды кінуў 5-кілаграмовае ядро на адлегласць 9,97 м/ і Грыша Малец /піхнуў ён такой самай вагі ядро на адлегласць 10,21 м/.

Брава для спартсменаў з бельскай "тройкі"!

**ЯНКА ДАРОЖНЫ**

## ПРОСЬБЫ АБ ПРАБАЧЭННІ НЕ БУДЗЕ АБО ЯШЧЭ ПРА ПІЛСУДСКАГА Ў НОВЫМ БЕРАЗОВЕ

☛ *Працяг са стар. 3*

"Вы наогул стараліся прынізіць ідэю пабудовы гэтага помніка, але магу сказаць, што вам не ўдалося. Бацькі нашых вучняў выказалі мне сваё абурэнне вашым артыкулам. Не ўдасца вам таксама перашкодзіць нам у прысваенні школе імя Маршалка. Ужо ўсё дзеля гэтага падрыхтаванае, чакаем толькі згоды кураторыі".

* * *

А вось мой адказ, замест просьбы аб прабачэнні. Пані дырэктар, нічога я не стараўся прыніжаць і нічому не збіраюся перашкаджаць. Напісаў я толькі тое, што мне казалі жыхары Новага Беразова. Сваіх размоўцаў магу я называць, але магу і не называць - гэта маё і іх права. Вашых слоў, як вы самі сцвердзілі, я не перайначыў, дык, мабыць, і тыя выказванні прывёў дакладна. Згаджаюся з вамі, што ў кожнага можа быць свой погляд на гісторыю, на паасобных герояў. Таму дазвольце, каб я меў такі погляд і каб мелі яго мае размоўцы. Не трэба іх абражаць, называючы п'яніцамі.

Тое, што хтосьці адчуў зласлівую нотку ў маім артыкуле, гэта выключна яго справа. Я поўнасцю адказваю за свае словы, не за іх інтэрпрэтацыю чытачамі.

І яшчэ адно: пане Міранові, "ktoś tu mnie zrobił w trąbę". А вось чаму:

- па-першае - я павінен быў удзельнічаць у размове са спадарыняй Давідзюк у рэдакцыі /хаця гэты факт магу даравацъ, бо яна сама заявіла, што не хацела мяне тады бачыць/,

- па-другое - павінен я быў зазнаёміцца з лістом пані Давідзюк да таго, як быў ён надрукаваны і мець магчымасць адказаць на яго адразу,

- па-трэцяе - гэта пакрысе выцякае з папярэдніх пунктаў, - навошта мне было ехаць у Новае Беразова, калі я там нічога новага не пачуў і не ўбачыў; выезд лічу стратай часу.

На канец яшчэ раз звярнуся да пані Давідзюк, якая ўжо ў дзвярах выказала шкадаванне, што ў такі а не іншы спосаб гаварыла з "Нівай". Што яна тут мела на ўвазе, я магу толькі здагадвацца. Але ж яшчэ, пані дырэктар, не позна. Калі ласка.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

## КОЛЯ, ТАКАЯ ТВАЯ ПРАФЕСІЯ

Пасля апублікавання артыкула М. Ваўранюка „Вяртаем герояў" („Ніва н-р 48) мы атрымалі шмат лістоў і некаторыя з іх друкавалі. У рэдакцыю прыехала таксама пані Ірэна Давідзюк, дырэктар школы з Новага Беразова, закідаючы нам, што надрукавалі няпраўду, аргументуючы адначасова, што ініцыятарамі і арганізатарамі пабудовы помніка маршалу Пілсудскаму не была яна, а толькі жыхары вёскі. Запрапанаваў я тады, каб у пісьмовай форме прадставіла яна свой пункт гледжання ў гэтай справе, а мы без ніякіх скарачэнняў апублікуем яго ў „Ніве".

Тыдзень пазней я атрымаў ліст адрасаваны да мяне, у якім было патрабаванне перапрасіць паню дырэктар за няпраўдзівыя інфармацыі, якія быццам былі ў артыкуле Міколы Ваўранюка. Ліст гэты мы надрукавалі ў „Ніве" (н-р 52) і я абяцаў, што дэталёва высветлім гэту справу і тады вырашым, хто мае рацыю, і калі б мы памыліліся, абавязкова перапросім.

У пачатку студзеня дырэктар Ірэна Давідзюк пазваніла ў рэдакцыю з прэтэнзіяй, што надрукавалі мы яе ліст замест перапрашэння і сказала, што калі хтосьці мае ехаць у Новае Беразова, то каб гэта не быў Мікола Ваўранюк. З увагі на тое, што я добра ведаю сваіх супрацоўнікаў і не сумняваюся ў тым, што рэдактар Мікола Ваўранюк вельмі адказна выконвае сваю працу, не бачыў я патрэбы пасылаць туды нікога іншага, тым больш, што ішло пра тое, каб даведацца праўды да канца, а Мікола Ваўранюк быў у гэтай справе найлепш зарыентаваны. Спадзяваўся я, што пані дырэктар, як чалавек мясцовай эліты і чалавек з аўтарытэтам захаваецца карэктна. Але тое, што вышэй прадставіў М. Ваўранюк, прымушае мяне выказаць яму словы спачування.

Адчуваю я ў артыкуле калегі жаль да мяне, што сядома паслаў яго на сустрэчу, якая, як мог ён здагадвацца, магла быць непрыемнай. Коля, такая Твая прафесія! У Новым Беразове ты выконваў сваю журналісцкую працу, а гэта, як вядома, не заўсёды бывае лёгкім і прыемным заняткам. Калі гэта можа быць нейкім суцяшэннем, магу толькі сказаць, што іншыя журналісты маюць часам яшчэ горш за цябе, бо пасылаюць іх у Бейрут, Сараева, Карабах, Абхазію, дзе можна не толькі выматаць нервы, але патраціць жыццё.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

На кніжнай паліцы

# У ЗАЧАРАВАНЫМ КРУЗЕ ЭМІГРАЦЫІ

Нешматлікая беларуская эміграцыя час ад часу пацешыць нас кнігай - а то выданнем новага зборніка паэзіі, а то тома прозы. Неўзабаве павінна паявіцца, на англійскай мове, Яна Запрудніка гісторыя Беларусі, а Вітаўт Кіпель здаў у друк падрыхтаваную ім жа агульную гісторыю беларускай эміграцыі.

Калі яна выйдзе - зараз дакладна сказаць немагчыма: можа неўзабаве, а можа і праз нейкі год. Аднак хто цікавіцца якраз тэмай беларускай эміграцыі пасля II сусветнай вайны, павінен неадкладна прачытаць кнігу /476 старонак!/ Канстанціна Мерляка /1919 года нараджэння/ названую ім **"ДЗЕЙНАСЬЦЬ КАСТУСЯ МЕРЛЯКА НА ЭМІГРАЦЫІ. ПРАНІКЛІВАСЬЦЬ І ПРАКТЫЧНЫ ПАДЫХОД"**. Выйшла яна ў канцы 1992 года ў Нью-Йорку.

Адразу скажам, кніга незвычайна цікавая з увагі на фактаграфічны матэрыял узбагачаны здымкамі, копіямі розных дакументаў, спісамі беларускіх арганізацый, устаноў, клубаў, груповак /дакладныя даты, асобы, структура кіраўніцтва/, пералікам важнейшых з'ездаў, спатканняў, святкаванняў, пасяджэнняў. Ёсць і імянны паказальнік.

Кніга гэта напісаная не абы-якім чалавекам. Жыццё ды дзейнасць Кастуся Мерляка цесна звязана з галоўным рэчышчам беларускай эміграцыі 1945-1990 гадоў. Іменна К. Мерляк - звышэнергічны, ініцыятыўны, таленавіты /свабодна валодае англійскай, іспанскай, французскай, нямецкай мовамі/, жыццёва эрудзіраваны - стаіць у цэнтры падзеяў, уплывае на ход і кірунак дзейнасці беларускай эміграцыйнай палітыкі.

Аўтар кнігі не скрывае перад чытачамі сваіх якасцяў лідэра. Гэта якраз падкрэслівае ў прадмове і В. Шчэцька: "Жыццёвая схільнасьць працаваць у арганізацыях, працавітасьць, здольнасьць сужыцьця зь нізамі й вярхамі, лёгкасьць навязаньня знаёмстваў і тонкі нюх палітычнае атмасфэры, - зрабілі К. Мерляка ў Нью Ёрку цэнтральнаю асобаю беларускага арганізованага жыцьця. Ад старшынства акруговай управы БАЗА дайшоў да старшыні Галоўнай Управы. А як кардынальная асоба масавай арганізацыі, ён уплываў на ўсё беларускае грамадзкае й рэлігійнае жыцьцё /.../. Добраю рысаю К. Мерляка, як кіраўніка й дыплямата, была пранікліваcьць у амэрыканскае асяродзьдзе ды навядзеньне знаёмстваў з вартаснымі асобамі палітычнага сьвету. Тое-ж самае - навязаньне зносін зь міжнароднымі арганізацыямі й іх кіраўнікамі. Здольнасьць знаёміцца ўвяла пазьней К. Мерляка ў шырокае кола высокапастаўленых асобаў у Вашынгтоне, а гэта дало мажлівасьць рабіць пашырэньне беларускага імя на амэрыканскім і інтэрнацыянальным узроўні".

Кніга складаецца з чатырох частак. У першай аўтар апісвае сваё жыццё з маленства, потым час вучобы і першай працы, затым перыяд вайны ды эміграцыю ў Аргенціне /1947-1954/. У другой і трэцяй частках падрабязна прадставіў ён сваю разгалінаваную грамадскую дзейнасць у Амерыцы /1954-1990/. Частка чацвёртая прысвечаная палеміцы з былым беларускім савецкім друкам, які востра рэагаваў на "сваіх" эмігрантаў ды вёў з імі ціхую барацьбу. К. Мерляк трохі гаворыць аб тым, як людзі з адпаведнай службы пранікалі ў асяроддзі пражывання беларусаў за межамі айчыны і прабавалі выцягнуць людзей на радзіму або, калі не ўдавалася намовіць вярнуцца, хоць пасеяць між імі падазронасць, недавер. Слушна, аднак, аўтар не перабольшвае ўздзеяння гэтых савецкіх людзей на агульны вобраз ды менталітэт беларусаў-эмігрантаў.

Прычыны разладу, перасваранасць беларусаў на чужыне, а значыць і іхняй мізэрыі ў палітычным сэнсе бачыць ён перад усім у нацыянальна-ўнутраных з'явах ды фактах. К. Мерляк досыць аб'ектыўна, амаль без лішніх эмоцый ды каментарыяў, гаворыць, чаму, напр. БНРаўцы не любяць БЦРаўцаў, а крывічы - беларусаў, праваслаўныя беларусы - каталікаў беларусаў і ў сваю чаргу, чаму прыход адных праваслаўных не можа пагадзіцца з прыходам іншых праваслаўных. А ўсё гэта ўзвінчана да такой тэмпературы, што палагодзіць справу, як некаторым здавалася, мог бы ўжо толькі суд. Але адвакаты ўсюды аднолькава хітрыя: не скончаць справы пакуль не абсцёбаюць кліента да апошняй грашавіны. К. Мерляк са смуткам сцвярджае пра ўтопленыя ў судах сотні тысяч долараў. А канца не відаць, каб можна было выбрантацца з гэтага зачараванага круга.

Аднак жа і гэтага, несумненна, заганнага, грэшнага боку чалавечага характару К. Мерляк таксама не дэманізуе. Аўтар кнігі паказвае і асноўныя прычыны той "слабасці", між іншымі, чаму прэзідэнт М. Абрамчык ды пазней іншыя абраныя лідэры палітыкі беларускай эміграцыі прапагандавалі канцэпцыю "непрадрашэнства" - гэта значыць, чаму вялі "малую" палітыку побач вялікай палітыкі Вашынгтона і Масквы. І вось пры ўсёй гэтай нутранай калатнечы ды знешніх націсках і прымусах беларусы ў Амерыцы на дзіва зрабілі шмат добрага, карыснага, непрамінальнага - і для сябе дый для беларускай культуры ўвогуле. Да гэтага прыкладаў шчаслівa руку і К. Мерляк.

Як многа прайграла Беларусь патрацйўшы такіх актыўных людзей, як менавіта Канстанцін Мерляк! Пры ім многія сённяшнія беларускія палітычныя дзеячы з правага і левага франтоў - як васковыя фігуры ў тэатры абсурду. Няма ў іх якраз таго, на чым цвёрда стаяў усё жыццё К. Мерляк - праніклівасці і практычнага падыходу.

**ЯН ЧЫКВІН**

*Канстанцін Мерляк, Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі. Праніклівасьць і практычны падыход, Нью Ёрк 1992, Printed in the United States of America by "Polacak".*

## АЎКЦЫЁН У КРАКАВЕ

**6 лютага г.г., у падзямеллі гасцініцы "Pod Różą", што ў Кракаве, на вул. Фларыянскай 14, адбудзецца другі кніжны аўкцыён, падрыхтаваны антыкварыятам "Rara Avis". З аўкцыённага каталога падаем тыя выданні, якія могуць зацікавіць нашых чытачоў:**

Poz. 3 - Abraham W., Powstanie organizacji kościoła łacińskiego na Rusi, T. 1 /więcej nie wyszło/, Lwów 1904. Cena wywoławcza 200 tys. zł.

Poz. 34 - Chodynicki K., Kościół prawosławny a Rzeczpospolita Polska, Zarys historyczny 1370-1632, Warszawa 1934. C. w. 300 tys. zł.

Poz. 69 - Gloger Z., Album etnograficzny..., W-wa 1904. C. w. 500 tys. zł.

Poz. 79 - Herbaczewski J. A., Głos bólu. /Sprawa odrodzenia narodowego Litwy w związku ze sprawą wyzwolenia narodowego Polski/. Kraków 1912. C. w. 160 tys. zł.

Poz. 87 - Jodkowski J., Grodno i okolice w zaraniu dziejów Litwy i Rusi nad Niemnem, Grodno 1928. C. w. 80 tys. zł.

Poz. 118 - Kutrzeba S., Historia ustroju Polski w zarysie, T. 2. Litwa, Lwów 1914. C. w. 200 tys. zł.

Poz. 157 - Ossendowski F. A., Polesie, Poznań 1934 /seria: Cuda Polski/. C. w. 300 tys. zł.

Poz. 167 - Piekarski S., Wyznania religijne w Polsce, W-wa 1927 /zawiera m. in.: Prawosławie/. C. w. 100 tys. zł.

Poz. 206 - Rozprawy historyczne /wyd. przez Tow. Nauk Warsz./, T. 19 /1938 r./, /zawiera m. in.: A. Łapiński - Zygmunt Stary a kościół prawosławny/. C. w. 150 tys. zł.

Poz. 271 - Tyszkiewicz J., Skorowidz monet litewskich, W-wa 1875. C. w. 300 tys. zł.

Poz. 288 - Wrotnowski F., Zbiór pamiętników o powstaniu Litwy w r. 1831, Paryż 1835. C. w. 300 tys. zł.

Poz. 317 - Kutrzeba S., Semkowicz W., Akta unji Polski z Litwą. 1385-1791, Kraków 1932. C. w. 800 tys. zł.

Poz. 323 - Fijałek J., Semkowicz W., Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji wileńskiej, T. 1 /więcej nie wyszło/, Kraków 1948. C. w. 500 tys. zł.

Poz. 331 - Paszkiewicz H., Regesta źródłowe do dziejów Litwy od czasów najdawniejszych aż do unji z Polską, T. 1, Do r. 1315, /więcej nie wyszło/, W-wa 1930. C. w 300 tys. zł.

**У аўкцыёне можна прымаць удзел пісьмова. Заказы прымае:** Antykwariat "Rara Avis", ul. Szpitalna, I piętro, 31-024 Kraków /dopisek - "Aukcja"/. **У заказе неабходна падаць нумар пазіцыі, прозвішча аўтара, першае слова загалоўка і найвялікшую суму грошай, якую заказваючы згодны заплаціць за кніжку.**

**ПЁТР БАЙКО**

## КАНФЕРЭНЦЫЯ АДТЭРМІНАВАНАЯ

Міжнародная канферэнцыя "Дарога да ўзаемнасці", арганізаваная Польскім беларусазнаўчым таварыствам, у планаваным тэрміне /29-30 студзень г.г./ не магла адбыцца таму, што з-за змены спосабу выдавання пашпартоў не змаглі б прыехаць дакладчыкі з Беларусі. Арганізатары назначылі новы тэрмін канферэнцыі на **21-22 мая 1993 г.** Заявы аб удзеле прымаюцца да 1 красавіка г.г.

# DEFLORACJA MÓZGU ZBLIŻA SIĘ!

☛ *Працяг са стар. 1*

**Напэўна не выходзяць** "Echo Siemiatycz" **ды** "Echo Bielska" - **абодва выданні зарэгістраваныя адным і тым жа чалавекам, які пражывае ў Сямяцічах. Здаецца, тамака выходзіць** "Głos Siemiatycz". **Пакуль што, голас застаецца без рэха.**

### КАЛІ ЗАКУКАРЭКАЕ RÓŻOWY KOGUT?

**Мусіць, няхутка.** "Różowy Kogut" - **гэта квартальнік, зарэгістраваны** Towarzystwem Przyjaciół "Ritza". **Гэтае** Towarzystwo **стварылі беластаччнае з Беластока, якія думалі, што беластаччане з Тэль-Авіва прыедуць у Беласток і пабудуюць гатэль пад назваю "Ritz". А яшчэ больш наіўныя беластаччане стварылі** Agencję "Ritz" **і зарэгістаравалі тыднёвік** "Gazeta Hotelowa". Kajn geszeft, majne heren, mit dize cajtungen. Nu?

### KOMTURIA BIAŁOSTOCKA?

**Калі я пачуў ад спадарыні Тэрэсы, што ў Беластоку абаснавалася Фундацыя Усходняй Прусіі, падумалася мне ў першую хвіліну /даволі наіўна, усё-такі/, што вось знайшліся на Беласточчыне прусы і нехта ўзяўся ўваскрэсіць гэтае балцкае племя як нацыю, рыхтык бы Мыкола Шыляговіч яцвягаў на Палессі. Але глянуў я на мэты Фундацыі, а яны - у крыжацкі бок:** inwentaryzacja i ochrona zabytków kultury niemieckiej, krzewienie języka i kultury niemieckiej, wymiana turystyczna pomiędzy Republiką Federalną i Prusami Wschodnimi. **Заснаваў Фундацыю нехта народжаны ў Жыўцу /там, дзе вараць піва/. З карпацкіх крыжакаў, няйначай. І сваю газету выдаваць будзе -** "Gazetę Wschodniopruską". **Тыднёвік,** natürlich.

### ВЕРНЫЯ ПРАПАШЧАЙ СПРАВЕ

**Хто б гэта мог быць? Мэты згуртавання, між іншым:** a/ mobilizowanie ludności do aktywnego udziału w budownictwie socjalizmu w Polsce na zasadach leninizmu; b/ mobilizowanie ludności do aktywnego udziału we wszechstronnym rozwoju kraju, w realizacji reformy gospodarczej oraz aktywizacji produkcji rolnej i przemysłowej w Polsce. **Хто сёння ў Беластоку займаецца згодна з законам антыўрадавай дзейнасцю? Беларускае грамадска-культурнае таварыства. Гэта выняткі са статута БГКТ. З вялікім навуковым узрушэннем я адкрыў, што пад просьбай аб рэгістрацыі гэтага статута стаіць мой уласнаручны подпіс /як сакратара ГП БГКТ/. Але ці быў гэта, так сказаць, правамоцны подпіс? Я ж тады не аплачваў членскіх складчын.**

**Як бы яно ні было, я вас перасцерагаю, сябры. Склікайце з'езд як мага хутчэй і перавыбірайце ўлады, бо як мне стала вядома, суд збіраецца забараніць вашу арганізацыю пад фармальным закідам у парушэнні статута: скончылася папярэдняя кадэнцыя і мінуў ужо тэрмін судовай актуалізацыі дадзеных наконт кіраўніцтва.**

**Ад сябе дадам, што мінуў ужо таксама тэрмін, да якога можна было пабудаваць сацыялізм на ленінскіх прынцыпах.**

### DEFLORACJA MÓZGU ШТОМЕСЯЧНА!

**Як трэба будаваць сацыялізм, каб ніхто не зарыентаваўся, со** jest grane, **паказвае прыклад** Wojewódzkiej Rady Koordynacyjnej Związku Socjalistycznej Młodzieży Polskiej w Białymstoku. **У статуце чытаем:** Celem Związku jest zaspokajanie politycznych, kulturalnych, edukacyjnych i socjalnych potrzeb młodzieży, poprawa warunków startu życiowego, umożliwienie jej awansu społecznego i zawodowego. **І ўсё. Ні слова пра сацыялізм ні ў гэтым месцы, ні ў якімсьці іншым.**

**Апошнім часам беластоцкі ZSMP зарэгістраваў сваё выданне. Называецца яно** "Defloracja mózgu". **Будзе выходзіць штомесячна. Гэта мяне крыху супакойвае.**

### У ІМЯ БОГА ЛІТАСЦІВАГА І МІЛАСЭРНАГА...

**Гэткімі словамі пачынаюцца статуты** Związku Tatarów Polskich **ды** Stowarzyszenia Studentów Muzułmańskich w Polsce. **Статут** Związku Tatarów **надзвычай цікавы сваім зместам і як такі заслугоўвае асобнага даследу. У члены гэтага** Związku **залічаныя гуртам усе татары, і малыя, і старыя, прытым неабавязкова з Польшчы. Яго немагчыма развязаць - на выпадак нейкай палітычнай завірухі ці іншай калатні** Wszechpolski Kurułtaj **/заканадаўчая ўлада/ або** Diwan **/выканаўчая ўлада/ перадае свае паўнамоцтвы асобе або нейкай управе за мяжой, і згуртаванне дзейнічае далей. Усё гэта загарантаванае статутам.**

### ...................?

**У статуце аднаго з зарэгістраваных у Беластоку згуртаванняў чытаем:** Celem Związku jest popularyzacja pamięci społecznej postępowych tradycji oraz ........ byłych więźniów młodocianych o wyzwolenie narodowe i społeczne. **Што-колечы гэты запіс ні абазначаў бы, суд яго прыняў.**

### А ДЗЕ МЫ?

**Мы - гэта "Ніва". Рэдагуем яе ў памяшканнях каля самога суда, можна сказаць, пад пільным вокам Феміды, а нас - няма! Няма ў судовых рэестрах, у якіх ёсць шмат што, чаго сапраўды няма.**

**Мой даслед на гэтым запыняецца. Шмат іншых адкрыццяў застаецца пакуль што ў занатоўках. Магчыма, будзе нагода апублікаваць іх пазней, каб данесці гэтыя веды і без іх агламазджанаму грамадству.**

**ЯН МАКСІМЮК**

# НЕ ПАДРЫХТАВАЛІ ЗМЕНЫ

**ГУТАРКА З АЛЕСЕМ РАЖАНЦОМ, БЕЛАРУСАМ З ЛОНДАНА, ЯКІ НАВЕДАЎ У СНЕЖНІ МІНУЛАГА ГОДА НАШУ РЭДАКЦЫЮ**

*— Калі і адкуль завандравалі вы, случчанін са школай-дзесяцігодкай, у Англію?*

— У Англіі я апынуўся ў 1946 годзе. Амаль усе беларусы мужчынскага полу, якія пражываюць тут сёння, прыбылі ў гэту краіну з Італіі, з польскага войска.



*— Нялёгкі быў лёс эмігранта ў Англіі?*

— Трэба было перш за ўсё ведаць англійскую мову. Калі мы былі дэмабілізаваны, англійскія ўлады стварылі прыспасабленчы корпус з былых польскіх жаўнераў для падрыхтоўкі цывільных прафесій.

*— Ці свой жыццёвы старт у Англіі вы пачыналі ад Лондана?*

— Не. Спачатку я жыў у Брадфардзе, графства Йоркшыр. Працаваў там на фабрыцы ткачом. Гадоў дзесяць мінула, пакуль я вывучыў англійскую мову. Закончыў спецыяльныя будаўніча-канструктарскія курсы і пераехаў у Лондан. Там пачаў працаваць красляром у канструктарскім бюро.

Даводзілася крэсліць шмат архітэктурных планаў, і кепска стала з вачыма. Трэба было мяняць працу. Па рэкамендацыі доктара я пачаў працаваць у камерцыйнай фірме, у якой прабыў аж да 1988 года, да пераходу на пенсію.

*— Калі пачалася ваша грамадская дзейнасць?*

— Паколькі войску не дазвалялася займацца палітыкай, толькі пасля роспуску польскага войска па дазволу генерала Капанскага нам было дадзена права ствараць свае нацыянальныя арганізацыі. Беларусы і ўкраінцы актыўна ўзяліся за гэту справу. Ужо ў канцы 1946 года мы з сябрамі заснавалі беларускую арганізацыю „Згуртаванне беларусаў Вялікабрытаніі". Было створана некалькі яе аддзелаў: у Брадфардзе, Манчэстэры, Кембрыджы, Нотэнгаме, а найбольшы — у Лондане, дзе пражывала вялікая колькасць беларусаў.

Такім чынам беларусы, якіх лёс кінуў у Вялікабрытанію, заняліся шырокай нацыянальна-патрыятычнай дзейнасцю. Галоўнай іх мэтай было пазбіраць усіх беларусаў у сваю арганізацыю.

*— Першы з'езд вашага згуртавання адбыўся, здаецца, у 1947 годзе?*

— На Каляды 1947 года. З'ехалася каля 250 чалавек. Большасць прыехала яшчэ ў вайсковай форме. Мо толькі 10—20 асоб было ў цывільным. Пераважалі мужчыны.

*— Я чула, што вы былі некалькі разоў сакратаром Галоўнай управы Згуртавання беларусаў Вялікабрытаніі ў Лондане. Але непасрэдна ваша дзейнасць пачалася ж яшчэ ў Брадфардзе?*

— У Брадфардзе мы набылі за грошы членаў згуртавання дом і ўласнымі рукамі адрамантавалі яго. Там знаходзілася ўправа аддзела і беларуская бібліятэка. Гады двойчы выходзіў часопіс „Патрыёт", які мы выдавалі на беларускай мове. Я быў яго рэдактарам. Друкаваўся ён на лацінцы, бо ў нас не было абсталявання з кірыліцай.

Акуратна адзначаліся ў нас усе рэлігійныя і нацыянальныя святы (Вялікдзень, Каляды, гадавіны 25 Сакавіка і Слуцкага паўстання).

Будучы ўжо ў Лондане, я шмат энергіі прысвяціў распаўсюджванню ведаў аб сваёй бацькаўшчыне сярод англійскага насельніцтва. Мы друкавалі шмат артыкулаў у беларускіх часопісах, якія выходзілі ў Лондане („На шляху", „На чужыне"). Старонкі гэтых часопісаў запаўняліся не прафесіяналамі, а звычайнымі членамі беларускага згуртавання і больш даходзілі да свядомасці нашага чалавека, чым нейкі разумны навуковы артыкул. Пазней быў створаны часопіс на англійскай мове: „Часопіс беларускіх студыяў". Выдаецца ён Англа-беларускім таварыствам.

Прыкра сцвердзіць, але шмат беларусаў у апошнія гады адыйшло з жыцця, і цяпер наша арганізацыя ўжо не такая моцная, як раней.

*— Ну, і як заўсёды ў такіх выпадках, няўхільна дзейнічае асіміляцыя?!*

— На жаль, так.

*— Ці так, як у Амерыцы, ці яшчэ горш?*

— Горш. У нас беларусы не жывуць, як там, групамі, а вельмі раскіданыя. Пакуплялі невялікія дамы, жывуць пераважна на перыферыях.

Пакуль дзеці былі малыя, былі беларускія школкі (пераважна пры царкве), дзе дзеці вывучалі беларускую мову і гісторыю Беларусі. Цяпер яны павырасталі і разыйшліся. Пакончалі англійскія школы, пайшлі на працу ў англійскія ўстановы.

*— А ёсць жа ў вас умовы для беларускай дзейнасці — Скарынінскі цэнтр у Лондане, Скарынінская бібліятэка!*

— Але працуюць у гэтай бібліятэцы найчасцей старэйшыя.

*— У Згуртаванні беларусаў Вялікабрытаніі таксама няма моладзі?*

— Мала. Мы не падрыхтавалі пакалення, якое прыйшло б нам на змену. Беларусаведы — англічане: Арнольд Макмілін, Вера Рыч, Шырын Акінэр, Джэймс Дынглі. Большы ўдзел бярэ моладзь у мерапрыемствах, якія арганізуе царква, пераважна Ефрасінні Полацкай у Лондане.

*— І няма ніякай ужо надзеі на зацікаўленне моладзі беларускай дзейнасцю?*

— Надзея толькі на маладых эмігрантаў з Беларусі, за кошт якіх папаўняюцца нашы рады.

**Гутарыла АДА ЧАЧУГА**
**Фота ЗДЗІСЛАВА ЛЯНКЕВІЧА**




## КРУГ ПАРАНОІ, АЛЕ ДЗЕ?

Разбураць еднасць народа і дружбу гэтаі дурань патрапіць, але аб'яднаць у адну сям'ю - да гэтага вось трэба быць разумным і патрыётам. Прачытаўшы ў "Ніве" /н-р 1 ад 3.01. 1993 г./ некалькі выказванняў пад супольным загалоўкам "Рэвэ та стогнэ Буг та Нарва" я страпэнна абурыўся. Майму найлепшаму сябру Янку Кірызюку ставіцца закід, што здрадзіў ён беларушчыну, што не вельмі добра ведае беларускую ды ўкраінскую мовы, і што слабенькі з яго паэт.

Чую я ў гэтым інтрыгу БГКТ. Дзеячы гэтай арганізацыі ўжо забыліся, што дзякуючы Янку Кірызюку іх арганізацыя атрымала памяшканне ў Бельску-Падляшскім. Янка тады быў дзеячам ЗМС і меў неякепскія "ходы" ў гэтым горадзе. Калі б не ён, памяшкання тэтага бэгакатоўцы ніколі не мелі б. Таму павінны яны маўчаць. Тое, што Кірызюк знайшоў цяпер сяброў сярод польскіх украінцаў, гэта яго асабістая справа. Паводле мяне ўкраінцы - гэта нашыя родныя браты, і з братамі нельга ў такі спосаб спрачацца.

Тое, што Кірызюк напісаў у нелегальным выданні верш пра рымскага папу, якога змест быццам падобны на творчасць афіцэра бяспекі, гэта не мае ніякага значэння. Многія нашыя паэты з "Белавежы" пісалі паклёпы на кожную рэлігію, а цяпер перакладаюць вершы ксяндзоў, а ў сваёй творчасці святарам пальцы ліжуць. Адзін нават атрымаў пахвальны ліст ад рымскага папы. Кірызюк ацаніў папу паводле сваіх меркаванняў і да гэтай пары ў гэтай справе не змяніў сваіх поглядаў.

Калісь А. Барскі закідаў Кірызюку, што той перастаў біць паклоны яму і камуністычнаму праўленню БГКТ, выказваў радасць, што "Белавежа" не захацела друкаваць яго вершы. Але не таму Кірызюк парваў свае сувязі з БГКТ, што не хацелі выдаць яго паэтычны зборнік, а толькі таму, што не хацеў больш служыць камуністычнай бясспецы і партыі. Ён і іго сваякі, якія жывуць у нашай вёсцы, не адракліся сваей роднай мовы. "Белавежа" не захацела друкаваць зборнік Янкі Кірызюка, а ўкраінцы зрабілі гэта вокамгненна. І не зрабілі гэтага дзеля прапаганды, а толькі каб паэзія на найвышэйшым узроўні пабачыла свет, каб людзі маглі яе чытаць. Няхай хтосьці з "Белавежы" пахваліцца такім мастацкім словам, як Кірызюк. Закід, што ён не ўмее добра гаварыць па-ўкраінску зусім смешны. А ці ж усе тыя беларускія паэты гавораць чыста па-беларуску? А ці такая чыстая мова аж так вельмі нам патрэбная?

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**




**XXVI**

Калі параўнаць выказванні аб капіталізме беларусаў з усходняй Беласточчыны і беларусаў з Рэспублікі Беларусь, дык кідаюцца ў вочы значныя падабенствы ў ацэнцы гэтай з'явы. Аналагічныя ацэнкі датычаць перш за ўсё пераканання аб тым, што ў эканоміцы і гаспадарцы нельга праводзіць змен рэвалюцыйным шляхам, што патрабуецца ў гэтых галінах асцярожнасць, прадуманасць і паволнасць. Хаця той круг людзей, з якімі я стараўся праводзіць размовы не карыстаецца навуковай тэрміналогіяй, то перакладаючы іх выказванні на кніжныя фармуліроўкі можна было б сказаць, што размоўцы не бароняць старой сістэмы, але лічаць пры гэтым, што ўсе змены павінны праводзіцца эвалюцыйным шляхам. Многія з размоўцаў моцна раздвоеныя і па сутнасці непаслядоўныя. З аднаго боку яны падтрымліваюць тую атмасферу свабоды, якая паявілася ў грамадскім, палітычным і прафесійным жыцці, а з другога боку асуджаюць усе тыя эфекты, якія з'яўляюцца рэзультатам гэтай свабоды. У гэтым аспекце характэрна выказванне прыблізна трыццацігадовага жыхара Слонімскага раёна, які прыехаў у Польшчу на гандаль.




„Ну как тут сравнить былую жизнь и сегодняшнюю? Никак не сравнишь, всё по-другому стало. Ну, примерно возьмём меня. Я механизатор в колхозе. Работаю от темна до темна, особенно летом. Давали мне нагоняй и председатель колхоза, и секретарь партии, и председатель профсоюзов. Жевало иногда и районное начальство. Все несли: больше работай, не воруй, эконом горючее и т.д. А сегодня я свободный человек. Могу к едроной бабушке послать любого начальника и иногда посылаю. Вот возьмём к примеру сегодняшнюю мою поездку в Польшу, впрочем в этом году я уже приезжаю четвёртый раз. Так что вы думаете, я даже не известил своих начальников, поехал и всё. Если бы я такое сделал в прошлом, то меня бы непременно посадили в кутузку, а сегодня ничего.

Работал я в прошлом сильно. Ну правда и получал неплохо, так примерно 350 рублей в месяц. До этого ещё жена до двухсот рублей. Жили хорошо. Даже корову ликвидировали. На кой чорт она нужна, если молоко пятнадцать копеек бутылка. То зачем мне с этой коровой канителиться. Ну ещё что могу сказать: отдыхать ездил я во время отпуска, дети в лагеря ездили. Всё это практически было бесплатно. И поэтому когда я смотрю, как сегодня разваливается колхозный строй, то сердце всё-таки поболевает — жалко. Всё ж таки много было хорошего. Но с другой стороны и свобода тоже вкусная. Ну вот, приедешь в Польшу, три дня поскитаешься по базарам и вакзалам, заработаеш сто пятьдесят долларов, завезёш их домой, а это ведь семьдесят пять тысяч рублей. Это не шуточки. Я такие деньги не заработаю на протяжении года. Правда, надо отсчитать товар на дорогу, но как не считай, а всё ж таки чистыми сто долларов останется, это ж великолепно! Правда и то, что занимаемся мы унизительным делом. Стыдно было, однако, только в начале, а теперь нормально. Привык человек и даже без базара как-то неловко.

Ещё несколько лет тому назад в колхозе народ разговаривал о политике, беседовал. А сегодня? Как только кто-нибудь вернётся из Польши, то сразу прибегают соседи и все разговоры сводятся до того куда ехать, какой товар ходовой, где получше базар. Вот о чём разговариваем и чем живём! Не дай Бог, чтобы поляки прикрыли границы, вот плохо будет.

Ну, что касается этой независимости, то я должен сказать, что было у нас не так как надо. Разве нормально то, что вы, гражданин Польши, разговариваете со мной по-белорусски, а я, белорус из Белоруссии не пользуюсь родным языком? Это не нормально. Но были такие условия, что белорусы забыли свой язык. Ну, сегодня имеем дело с независимостью. Видно так оно и должно быть. Но это не значит, что Позняку удастся задушить в Белоруссии русский язык. Язык этот запустил глубоко корни в белорусскую почву и никакие Позняки этих корней не вырвут. Этот язык сидит в нашей душе. Другое дело, молодое поколение. Его надо обучать родноиу языку, быть может что-нибудь из этого получится. Кстати, ходят слухи, что в Белоруссии будут два государственных языка —белорусский и русский, вот это было б разумное решение. Ну, посмотрим. Коммунизм уже не возвратится в нашу жизнь, будем жить какой-то другой жизнью, а что это такое будет - неизвестно. Если это будет капитализм, то нашему народу очень трудно к нему привыкать, очень трудно. Но привыкнем, никуда не денемся".

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## ЛЮТЫ

Люты - апошні месяц зімы, самы снежны перыяд - час мяцеліц, завірух і заносаў. "Завірухі ды мяцелі ў лютым прыцелі", - кажуць у народзе. Але ён прыносіць не толькі холад, але і радасць. Днём хмарнае неба іншы раз становіцца надзіва глыбокім і сінім, а сонца не па-зімоваму яркім і цёплым, падымаецца вышэй. Дзень прыбыў на дзве гадзіны.

Павесялелі птушкі. Працягла і звонка ў сонечны поўдзень выводзіць сваю першую веснавую песеньку вялікая сініца. Яна прыбралася: чорны гальштучак праходзіць у яе праз грудку і, апускаючыся ніжэй на брушка, цягнецца да самага хваста. Сядзіць на альховым кусточку і складна так выводзіць: сінь-сінь-сінь...

Люты - пара вавёрчыных гульняў. Спрытныя зверкі з цоканнем і верашчаннем ганяюцца адзін за адным.

На зацішнай лясной паляне, што выбралі зайцы для сваіх "шлюбных" турніраў, увесь снег вытаптаны. Лютаўскімі начамі тут вельмі ажыўлена. Даўгавухія "кавалеры" бегаюць, палохаюць адзін аднаго, нават распачынаюць бойкі. Пачаліся лісіныя "вяселлі". На ўзлесках можна ўбачыць, як некалькі вялікіх лісаў з брэхам гоняцца за невялікай спрытнай ліскай. У лютым разбіваюцца на пары ваўкі.

А гэта што за птушка, чырванавата-шэрая, з залаціста-жоўтымі адмецінамі на крылах і жоўтай палоскай на хвасце? Гэта - амялушка, жыхар лясоў поўначы Еўропы і Азіі. З надыходам халадоў і бяскорміцы яна адпраўляецца ў далёкія падарожжы. Штогод шматлікія чароды гэтых птушак, звычайна ў сярэдзіне кастрычніка, з'яўляюцца ў нас. Каб наесціся, ім патрэбна столькі, колькі важыць сама птушка. Там, дзе шмат корму, яны затрымліваюцца надоўга. У асобныя гады ў Беларусі назіралі вялікія чароды амялушак з 300-500 і нават больш за 1000 птушак. Чачоткі - таксама нашы зімовыя госці. Лета праводзяць у Скандынавіі, а зімой ляцяць на поўдзень. Разам з чачоткамі да нас на зіму са Скандынавіі прылятаюць шчуры - ярка афарбаваныя птушкі велічынёй з дразда ці шпака. Шчур - даволі рэдкая птушка ў Беларусі.

Развітваюцца крылатыя госці з беларускімі лясамі ў лютым - пачатку сакавіка, у залежнасці ад надвор'я.

А. КУРСКОЎ



Фота Юркі Трачука

Вучнёўская творчасць

## ЯК ЦМОК ЗРАБІЎСЯ ХАТНЯЙ ЖЫВЁЛАЙ

Жыла раз у хатцы маленькая дзяўчынка. Жыла бедна, не ведаючы, што яна - прынцэса. А вось як гэта здарылася. У 1151 годзе пачалася вайна, і яе адвезлі за мяжу на вёску, кажучы: "У 1155 годзе вайна абавязкова скончыцца, і мы цябе забярэм назад, у родную Англію."

Але ў 1155 годзе па яе не прыехалі, і яна зразумела, што здарылася няшчасце. Выйшла яна аднойчы ноччу з дому і пайшла шукаць сваіх. Увайшла дзяўчынка ў лес і ўбачыла нешта вялізнае, якое ішло проста на яе! То быў цмок!! Ён лютаваў!!!

Убачыўшы дзяўчынку, цмок адразу змяніў лютаванне на палянванне і схапіў яе!

- Як цябе клічуць?! - запытаў цмок.

- Алена, - адказала дзяўчынка.

- Я забяру цябе да сябе! - зароў цмок.

- Я да цябе не пайду. Я шукаю родзічаў!

- Не хвалюйся, твае родзічы ў мяне.

- У цябе?! Яны ж ваявалі з ворагамі, - недаверліва сказала дзяўчынка.

- Як ваявалі так і перасталі! - зарагатаў цмок. - Хопіць размоў! Пайшлі хутчэй!

Праз гадзіну яны апынуліся каля вялізнай пячоры. Яе дзверы гарэлі агнём, але не згаралі. Цмок павёў Алену праз іх. У пячоры яна ўбачыла сваіх родзічаў. Усе яны былі ўзброеныя, як на вайне. Абняліся яны з дзяўчынкай, і тут увайшоў да іх цмок. Алена смела падыйшла да яго і сказала:

- Гэй, ты, самазванец! Ніякі ты не цмок, ты толькі ў сабаківарты! Ты - простая хатняя жывёла!

Цмок згадзіўся, адпусціў іх, а сам зрабіўся ў іх замест сабакі. З дапамогай цмока пабілі яны ўсіх ворагаў. Да таго ж, ён надзяліў іх вечным жыццём. А Алена кожны дзень яго выгульвала.

МАР'ЯНА КУДРАЎЦАВА,
вучаніца 3 класа 75 с/ш г. Менска

## СОНЦА-АБАРОНЦА

Мама пажадала Верачцы добрай ночы і таксама лягла спаць.

Верачка павярнулася тварам да акна і ўбачыла: у пакой зазірае маладзічок. А вакол яго многа-многа зорак. І усе яны зіхацяць-дрыжаць у высокім чыстым небе. А мо ёй, Верачцы, падміргваюць, жадаюць добрай ночы? Верачка выцягнула з-пад коўдры руку і памахала маладзічку і зоркам: "Добрай вам ночы!.."

Маладзічок усміхнуўся Верачцы і схаваўся за хмарку. А дзяўчынка перавярнулася на другі бачок, паправіла коўдру і сцішылася.

Усю ноч маладзічок і зоркі заглядвалі то ў адно акно, то ў другое: яны аберагалі Вераччын сон.

На золку Верачка прачнулася ад нечаканага стуку. Спачатку здалося, што гэта мама на кухні гатуе снядання. Але расплюшчыла вочы і ўбачыла: на аконнай ліштве сядзіць сінічка і стукае дзюбкай у шкло. Быццам будзіць яе, Верачку.

Верачка ссунулася з ложка і падышла да акна. "І чаго табе, сінічка, не спіцца ў такую рань? Сёння ж выхадны, мне не трэба ў садзік ісці".

Сінічка ўзмахнула крыламі і зноў стукнула дзюбкай у шкло. Толькі зараз Верачка заўважыла, што маладзічку на небе пагражае небяспека. На яго драпежнай птушкай насоўваецца чорная хмара. "Пэўна, хоча ў палон узяць", - падумала Верачка.

І зорак ужо не відаць. Іх захінула чорным крылом хмара. Дык вось чаму стукае ў акно сінічка. Яна шукае парады. Але як памагчы маладзічку і зоркам? Вось, каб вецер прачнуўся ды адагнаў небяспеку. Але ён, відаць, яшчэ соладка спіць у сваім лесе.

Што ж прыдумаць? Як выбавіць маладзічок з бяды? Без яго Верачка засумуе. Хто будзе заглядаць у акно, берагчы яе сон?

А хмара ўжо зусім блізка ад маладзічка. Ён уцякае з апошніх сіл. Так шпарка бяжыць, што аж пара з рота ідзе.

- Уцякай, уцякай, маладзічок, - просіць Верачка. - Зоркі, пасвяціце яму на дарожку!

Плыве, насоўваецца хмара. Вось ужо закрыла адзін ражок маладзічка. Але тут з-за лесу выплыў краёк ярка-ружовага дыска. Успыхнула неба, зачырванелася. З кожнай хвілінай полымя шугала ўсё вышэй і вышэй. Нават чорны хвост хмары загарэўся.

- Так табе і трэба! - шэпча Верачка. - Будзеш ведаць, як маладзічок паланіць!

А сонечнае полымя ахапіла ўжо ледзь не ўсю хмару.

Кінулася хмара ўцякаць. Відаць, добра прыпякло ёй. А маладзічок усміхнуўся Верачцы на ўвесь свой шчарбаты рот. І адзіная зорка, што свяцілася побач з ім, падміргнула дзяўчынцы.

Шчаслівая Верачка пабегла на кухню - расказаць маме пра незвычайную прыгоду.

МАКСІМ ВАЛОШКА

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

*МІРА ЛУКША*

### КОТ МІКІТА

Коцік маркотны.
Кату не спіцца...
Быў бестурботны -
Пара жаніцца.

Котка-мамуля
Ходзіць ля печы.
Хоча палюляць
Унукаў-малечаў...

І кот Мікіта
Выбраў за жонку
Мурку-Муркіту
З вёскі Палонкі.

Рада мамуля,
Рады суседкі...
Мы на вяселле
Пойдзем у сведкі!

### НА КІРМАШ

Раз мурашка-замурзашка
Разам з мышкай-замурзышкай
Запраглі жука-бядняжку,
Селі ў возік-каталажку, -
Хочуць ехаць на кірмаш.

Бачаць: жуку цесна ў шлеях.
Жук у шлеях проста млее!
Распраглі жука-слабяжку,
Кінулі і каталажку...
Пешкі пойдуць на кірмаш!

* * * * * * * * * * * * * *

*ВІКТАР ШВЕД*

### ШУКАЛА ПЕСЕНЬ

Непаседлівая доня
Адкрывае ўсе сакрэты.
Села пры магнітафоне,
Выняла з яго касету...

Ну і нечакана потым
Стужку цалкам размотала.
- Чаму, Ната, робіш псоту?!
- Песень я сваіх шукала...

### У ПРАДШКОЛЛІ

Цешыць Нату, як ніколі,
Што ўжо ходзіць у прадшколле.
А прадшколле, як вядома,
Блізка - у суседнім доме.

Неўзабаве ў Наты зноўку
Будуць новыя сяброўкі.
І таму настрой вясёлы:
- Хутка ўжо пайду я ў школу!

### ЯК ПРАЦУЕ МОЗГ?

- Можа б ты мне змог
Адказаць хоць слоўцам,
Як працуе мозг
У людской галоўцы?

- Не настаўнік я, -
Адазваўся тата. -
Галава мая
Чым іншым занята!

### ВАЎКІ ЯДУЦЬ БАБУЛЯЎ?!

Аднойчы быў Макарка
З бацькамі ў заапарку.
Спыталася бабуся,
Калі дамоў вярнуўся:

- Ці бачыў ты, сыночку,
Чым кормяць там звярочкаў?
- Мы ў заапарку чулі -
Ваўкі ядуць... бабуляў!



# ЁЛКА Ў КРЫЎЦЫ

15 студзеня бягучага года ішоў я па шырокай вуліцы ў вёсцы Крывец, што ў Нараўскай гміне і пачуў - аднекуль здалёк плылі звонкія песні і музыка. Я падаўся ў той бок. Дык гэта ж у школе! Падыйшоў я да прыгожага мураванага асабняка, адчыніў дзверы... ды ад нечаканасці - назад! На калідоры каля вялікай, упрыгожанай зіхатлівымі каляровымі лямпачкамі ёлкі збегліся... мітуслівыя зайчыкі, палахлівы козлік ды дзік з пагрозліва натапыранай поўсцю! Быццам у дзівосным сне. Што ж гэта можа быць?..

Супакоіўся я, аднак, калі ўбачыў малых дзетак, іх мамы ды многа-многа школьнікаў. Трапіў я - як, пэўна, чытач здагадаўся - на Навагоднюю ёлку. У школе якраз ішоў спектакль у выкананні малодшых вучняў. Прыслухаўся - дык гэта лясныя жыхары з'явіліся да сваіх юных сяброў на навагоднія падарункі.

А спектакль ішоў... Каля ёлкі сышліся ўсе дванаццаць Месяцаў. Кожны дасціпна сябе зарэкамендаваў, а апошні з іх - Снежань дык усіх павіншаваў з Новым годам. Весела і прыемна было! А ўжо ўсім-усім да спадобы былі святочныя пажаданні - такія пяшчотныя, сардэчныя і ласкавыя.

Малышы ажно цясней прытуліліся да сваіх мамаў і татаў, калі ля ёлкі аднекуль нечакана з'явіліся шэры Воўк і старая Сава, а затым Дзяўчынка ў чырвонай шапачцы і яшчэ Аленяня. Крыху пазней супакоіліся і адважней пачалі прыслухоўвацца да дэкламацыяў і песні пра стройную елачку ў цёмным лесе. Усім спадабаліся: і пастаноўка беларускай п'есы "Пінская шляхта" Вінцука Дуніна-Марцінкевіча, і жартаўлівыя сцэнкі са школьнага жыцця ў выкананні старшакласнікаў.

Пасля мастацкай часткі пачаліся танцы, а ў перапынках паміж імі гульні супольна з настаўнікамі і бацькамі, конкурсы з салодкімі ўзнагародамі. І тут як тут завітаў сам Дзед Мароз з двума мехамі на спіне. Прынёс ён падарункі - пачкі з ласункамі - для ўсіх дзяцей. А яны так чакалі, чакалі Яго! Час ад часу выглядалі на дарогу, спаглядалі на галоўны ўваход у школу... І вось гэты самы жаданы госць ужо ёсць! Прыйшоў, як сам кажа, здалёк. Пачуў вясёлыя гукі ў школе, дык завітаў сюды.

На заканчэнне варта дадаць, што мастацкую частку на Навагоднюю ёлку вучні падрыхтавалі пад кіраўніцтвам настаўніц: Мар'і Ляшчынскай, Аліны Кананюк, Мар'і Іванюк і Надзеі Міхальчук. На мерапрыемстве фотарэпарцёрамі былі: дырэктар школы Войцех Карчэўскі і настаўнік Яраслаў Іванюк.

ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ

З ГІСТОРЫІ

## ПЛЯМЁНЫ СТАРАЖЫТНАЙ БЕЛАРУСІ

Каля тысячы гадоў назад тэрыторыю сучаснай Беларусі засялялі прадстаўнікі некалькіх плямённых груповак, у асноўным славянскіх. Рассяленне славян на абшарах большай часткі Беларусі суправаджалася асіміляцыяй ранейшага насельніцтва, якое размаўляла на балцкіх мовах. У сваю чаргу ў працэсе такой асіміляцыі славяне змешваліся з балтамі і ўспрымалі многія іх асаблівасці ў мове, фальклоры, міфалогіі, матэрыяльнай культуры, фізічным тыпе. Вынікам такога змешвання стала фарміраванне беларускай народнасці.

Самай буйной плямённай групоўкай, якая на поўдні займала абсяг аж да Мінска, а таксама Смаленшчыну і Пскоўшчыну, былі крывічы. Як мяркуецца, назва крывічоў узнікла ад імені легендарнага родапачынальніка або ад назвы паганскіх жрацоў, атрыбутам якіх быў крывы жэзл. На землях крывічоў утвараліся такія магутныя для такога часу дзяржавы, як Полацкае і Смаленскае княствы. Назвы вёсак Крывічы трапляюцца далёка ад асноўнай плямённай тэрыторыі, ажно каля Салігорска, Пінска і Ліды. На поўдзень ад крывічоў жылі дрыгавічы, паходжанне назвы якіх летапісы тлумачаць дрыгвяністым, балоцістым характарам мясцовасці. На значнай частцы дрыгавіцкіх зямель утварылася княства з цэнтрам у Тураве. Паўднёвы ўсход рэспублікі (у асноўным басейн ракі Сож) займалі радзімічы, адносна невялікае племяннoе аб'яднанне. Назву іх летапіс выводзіў ад імені правадыра Радзіма. На паўднёвы захад Беларусі пранікалі валыняне.

Акрамя гэтых славянскіх супольнасцяў былі яшчэ і балцкія плямённыя аб'яднанні. На абодва бакі сучаснай мяжы з Латвіяй адбывалася змешванне крывічоў і латгалаў, бліжэй да мяжы з Летувай распасціраліся землі балцкіх Дзяволтвы і Нальшчанаў, а ў кірунку Менска знаходзілася летапісная Літва. У заходніх раёнах Гродзеншчыны і на паўночным усходзе Польшчы жылі яцвягі, па мове больш блізкія да тагачаснага насельніцтва Прусіі. Яцвягі каля трыста гадоў вялі гераічную барацьбу супраць сваіх суседзяў, што імкнуліся іх скарыць, пакуль не былі часткова знішчаны, часткова асіміляваны.

ЭДВАРД ЗАЙКОЎСКІ

## ПЕНЬ

У лесе стаяў пень. Тоўсты, здаровы. Здавалася, будзе стаяць вечна. Аднак з цягам часу пацямнеў, счарнеў. Пакрыўся тонкай павуцінкай моху.

Паявіліся спрыяльныя ўмовы для жыцця - і пад карой завяліся кузуркі. Яны пачалі ўядацца ў драўніну, прагрызлі ў ёй хады-выхады. Яны і жылі ў пні, і харчаваліся ім.

Чым больш разводзілася кузурак, тым хутчэй яны знішчылі аснову свайго існавання - пень. Ён ужо толькі зверху трымаўся, а ў сярэдзіне быў з'едзены, спарахнелы. А кузуркі, нічога гэтага не разумеючы, яшчэ актыўней размнажаліся і энергічней харчаваліся.

Урэшце, пень быў знішчаны. Страцілі свой часовы прытулак і яго насельнікі.

Ці не знішчаецца наша Зямля, як той апанаваны пень? Ці не настане канец людзям, як тым кузуркам? То, можа, трэба задумацца, апамятацца?

У чалавека, які апынуўся з пэўным запасам ежы на голым астраўку, ёсць два выйсці: альбо ўсё з'есці хутчэй і акалець, альбо харчавацца ашчадней ды жыць даўжэй. Магчыма, і ратунак знойдзецца.

Здаецца, настаў час выбару.

МІКОЛА ДЗЕЛЯНКОЎСКІ



























З РУСКАЙ КУХНІ

## ЗРАЗЫ З САРНІНЫ

Прадукты: 800 г мяккай сарніны, 150 г саланіны, шклянка мяснога булёну, шклянка сухога чырвонага віна, 1 лыжка мукі, соль, перац; фарш: 150 г сарніны, некалькі сушаных баравікоў (у сезоне лепш узяць свежыя), 1 цыбуліна, 1 лыжка масла, 1 лыжка сцертай булкі.

З гэтых прадуктаў атрымаецца порцыя для 4 чалавек.

Мяса для зразаў дакладна памыць, абсушыць і нарэзаць укосам упоперак валокан на 4 прадаўгаватыя кавалкі. Кожны з іх дакладна збіць малаточкам для катлетаў, пасаліць, дадаць перцу. Саланіну нарэзаць тоненькімі скрылёчкамі.

Кавалкі мяса для фаршу памыць, парэзаць і прапусціць праз мясарубку. Грыбы (сушаныя) зварыць і дробна пасячы. Цыбулю абабраць, дробна нарэзаць і падсмажыць на масле. Усе гэтыя прадукты спалучыць, дадаць сцертую на тарцы булку і старанна перамяшаць.

Падрыхтаваныя зразы змазваць фаршам, загортваць шчыльна, абляжыць скрылёчкамі саланіны і моцна звязаць льняной ніткай.

Зразы зляжыць у жароўню і тушыць на невялікім агні на працягу паўгадзіны, пераварочваючы ад часу да часу.

Калі ўжо зразы падсмажацца, абсыпаць іх мукою, даліць віна і булёну, а пасля прыкрыць жароўню і тушыць зразы паўтары гадзіны.

Падаюць зразы з панцаком і соусам, які атрымаўся пры тушэнні.

ГАСПАДЫНЯ

Навеянае прачытаным

### ВЕР, А НАВАТ НЕ ВЕР

Прысніліся мне нядаўна два сны. У першым снілася мне, што ў пасёлку Нараўка стаіць некалькі крытых аўтобусных прыпынкаў, а на дарозе з Нараўкі ў Янова ляжыць асфальтавае палатно. У другім сне снілася мне, што ў Семяноўцы няма асяродка здароўя. Што гэтыя сны могуць абазначаць?

Янка

Янка! У першым сне відавочна прысніўся табе беластоцкі аўтавакзал і вуліца Героя ў Монтэ-Касіна замест Нараўкі і дарогі ў Янова. Сведчыць гэта аб тым, што ты дрэнна спіш. Можа вядзеш сябе негігіенічна і арганізм твой, а асабліва падсвядомасць, працуе няправільна. Мусіш здынамізаваць свае паводзіны: трэба больш руху на свежым паветры і кантактаў з людзьмі, замест сядзець за сталом, так як гэта калісьці раіў вядомы тэрапеўт Адам Ежы Соха. Раю паехаць у Нараўку, падыйсці дарогай у напрамку Янова нейкіх 100 метраў за Гмінную ўправу і дзесьці там, найлепш каля Войткавай хаты, затрымацца, выпрастацца, набраць у лёгкія свежага вясковага паветра і некалькі разоў схіліцца, стараючыся дакрануць пальцамі да дарожнага палатна: калі пад пальцамі пачуеш гравій або ваду, абазначаць гэта будзе, што там ухабістая гравейка, такая як з Падляўкоўя ў Крыніцу; калі нічога не пачуеш, абазначаць гэта будзе, што там няма ніякай дарогі. Пасля можаш вярнуцца ў Нараўку і апытаць людзей з Нараўкі, Гарадзіска, Гушчэвіны, Міклашэва і Свінароў, колькі ў Нараўцы крытых аўтобусных прыпынкаў: сярэдняя колькасць названая імі будзе акурат прыблізным лікам сапраўднай колькасці крытых прыпынкаў у Нараўцы. Што тычыць другога сну, то я сам пастараюся высвятліць, што ў Семяноўцы: пазваніў я ў найбольш кампетэнтнае бюро: прэсавае бюро прэзідэнта Рэчыпаспалітай у Варшаве. Паведамілі мяне, што ў Семяноўцы асяродак здароўя ёсць, а нават яго там няма.

АНДРОН




Астроне! Сніцца мне, ужо другі раз, такі сон. Прыйшоў да мяне вельмі доўгі ліст з-за мяжы, ад маёй сяброўкі, якая там займаецца місіянерскай рэлігійнай дзейнасцю (так яно сапраўды ёсць). Ліст прыйшоў з Пецярбурга. Я яго чытаю, і прызнаюся, што гэта няпраўда, бо сяброўка працуе ў Вашынгтоне пры рэстаўрацыі якіхсьці старажытных будынкаў, але гэта праца захоўваецца ў таямніцы. Я з'яўляюся з сябрамі ў Вашынгтоне, ходзім па горадзе, сустракаю сяброўку ў рабочым адзенні. Вельмі прыгожа яна выглядае, надвор'е сонечнае. Мы ходзім разам па вуліцах, а я ўсё збіраюся запытацца, чаму не напісала, што працуе не там, куды афіцыйна яе накіравалі, але неяк не пытаю. І на гэтым канчаецца сон.

Зюта

Мне прыснілася, што прыйшоў братнябожчык і прынёс 2 фальговыя мяшочкі грошай. Былі гэта маркі і залатоўкі. Гаворыць мне: „Ты мне памяняй гэтыя грошы". А я яму адказваю: „Я дрэнна бачу і магуць мяне ашукаць". Тады ён кажа: „Добра, калі так, дык я сам гэта аформлю, толькі цяпер спяшаюся. Прыйду пазней."

Марыя

Зюта! Ты неспадзявана атрымаеш добрую вестку, з якой нічога не вынікне, бо перашкодзяць табе ў гэтым людзі, якія носяць у сваім сэрцы зайздрасць, злосць і нянавісць да цябе.

Марыя! Твой сон нічога асаблівага не абазначае — ні добрае, ні кепскае. Ты не плаціла грошай і не атрымлівала іх, а проста брат прасіў цябе, каб ты іх памяняла, а пасля вырашыў, што зробіць гэта сам. Плаціць грошы — поспех у справах, атрымліваць грошы — прырост у сям'і.

АСТРОН

## КАСЯК НА "Р-Т"



**Управа:** 1/ прадаюць і купляюць, 2/ мусульманскі пост, 3/ палёт пасля ўдару аб нейкую паверхню, 4/ распарадак паводле часу і месца, 5/ стан моцнага залежніцтва чалавека, 6/ было збудаванне, а цяпер яго рэшткі.
**Улева:** 7/ колькасць экземпляраў, 8/ яе сталіца Казань, 9/ насякомае, якое ў сярэдзіне мае раку, 10/ узарваўся ў Чарнобылі, 11/ мужчына, як бочка, 12/ багністае месца.

ядань

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на касяк з 50 н-ра: **Управа:** камар, куратар, капітал, кавалак, канваір, кефір. **Улева:** кажух, каханак, капітан, каравай, канвеер, кілім.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: **Галена Тапалянская** з Трасцянкі і **Лявон Федарук** з Рыбалаў.

## ЗАПОМНІЦЕ СВОЙ КОЛЕР

У народзе кажуць: „на густ і колер таварышаў няма". Магчыма, так яно і ёсць. І ўсё ж ад правільна падабранага колеру, скажам, губной памады ці ценяў для павек нярэдка залежыць, як будзе выглядаць жанчына. З гэтай мэтай прапаную прыкладны выбар колеравай гамы.

Бландзінкам з попельным адценнем валасоў, блакітнымі вачыма і светлай скурай рэкамендую светлую з лёгка ружаватым адценнем пудру, ружовую памаду, шэры аловак для броваў, блакітныя, шэрыя ці серабрыстыя цені да павек, вельмі светлыя з ружовым адценнем румяны, нарэшце, блакітную ці цёмна-сінюю туш для вейкаў.

Рыжавалосым, але з каштанавым адценнем, жанчынам, у якіх зялёныя вочы, мы рэкамендуем бэжавае адценне пудры, чырвоную ці жаўтавата-чырвоную губную памаду, светлыя з адценнем памады румяны, карычневы аловак, пад колер вачэй цені і карычневую туш для вейкаў.

Светласкурым шатэнкам пажадана карыстацца залацістай пудрай, светлачырвонай ці каралавай (калі цёмныя вочы), ружовай (калі светлыя) губной памадай, чорным алоўкам для броваў і пад колер вачэй ценямі для вейкаў, а таксама карычневай, чорнай ці цёмнакарычневай тушшу для вейкаў.

Нарэшце, шатэнкам са смуглай скурай і цёмнымі вачыма больш за ўсё падыдуць злёгку цёмная, бэжавая ці нават залацістая пудра, каралавая ці пунсова-чырвоная губная памада, такога ж адцення румяны, чорны аловак для броваў, пад колер вачэй цені для павек і чорная туш для вейкаў.

Бландзінкам, у якіх валасы і скура маюць мядовае адценне, а вочы карага ці зялёнага колеру, рэкамендуецца ўжываць крэмавую пудру, бэжавую з каралавым адценнем губную памаду, карычневы аловак для броваў, цені пад колер вачэй, а таксама чорную ці карычневую туш для вейкаў.

Брунеткам з блакітнымі вачыма і светлай скурай больш за ўсё падыходзіць светла-ружовая пудра, бэзаваружовая ці малінавая губная памада, блакітныя ці шэрыя цені для павек, чорны аловак для броваў і цёмна-сіняя ці чорная туш для вейкаў.

Смуглыя з цёмнымі вачыма брунеткі ў якасці асновы могуць сабе падабраць абрыкосава-залацістага, аліўкавага ці бурага адцення пудру, чырвоную ці вішнёвую губную памаду, чорны аловак для броваў, пад колер вачэй ці зялёныя цені для павек, а таксама цёмна-сінюю ці чорную туш для вейкаў.

А. ПРАЛЕСКА

### НЕЗВЫЧАЙНЫ ВЫПАДАК

Незвычайны выпадак здарыўся ў бальніцы венгерскага горада Капашвар. Там знаходзіўся Янаш Пэк, які адзінаццаць гадоў назад трапіў у аўтамабільную аварыю, у выніку чаго ён страціў мову. Аднойчы Я. Пэк разам з іншымі хворымі слухаў рэпартаж аб футбольным матчы (ён заўзяты балельшчык мясцовай каманды). У той момант, калі дыктар сказаў, што нападаючага мясцовай каманды збілі ў штрафной пляцоўцы гасцей, Я. Пэк разам з іншымі хворымі закрычаў „пенальці!"...

Пасля гэтага ён пачаў зусім нармальна размаўляць. Урачы так растлумачылі гэта цудоўнае вылячэнне: паколькі Янаш Пэк страціў мову ў выніку нервовага ўзрушэння, эмацыянальнае ўзбуджэнне ў час трансляцыі матча дапамагло яму зноў набыць мову.

(а-ця)




"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Antoniuk Fabryczny 13.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцыляры), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга.

Prenumerata.
1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1993 r. upływa 20 lutego 1993 r.
2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 39 000 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.
4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. w I kwartale 1993 r. wraz z wysyłką wynosi 4000 zł., a kwartalnie - 52000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# МАКАТРАЗМЫ

### ПТУШКА

Упадабаў паўлін *nobliwy*
Паддзіраццa зрэбнай „Нівай".
Яркія запэцкаў пер'і
Больш кіпцямі, чым паперай.

### МАТАЛОГІЯ

Карэнны ход:
— Я і народ!

**СІДАР МАКАЦЁР**

*АМБРОЗ БІРС*

## БАЙКІ

### Чалавек, які не мае ворагаў

Безабаронны Чалавек, які ішоў па вуліцы, быў моцна пабіты Незнаёмцам з Кіем.

Калі Незнаёмца з Кіем прывялі ў суд, ісцец сказаў Суддзі:

— Я не ведаю, чаму мяне збілі. Я не маю ніводнага ворага.

— Вось таму, — сказаў адказчык, — я і набіў яго.

— Вызвальце арыштаванага, — загадаў Суддзя. — Чалавек, які не мае ворагаў, не мае і сяброў. Суд існуе не для такіх людзей.

### Аўстралійскі конік

Вядомы Натураліст падарожнічаў па Аўстраліі і ўбачыўшы Кенгуру, што ціха сядзеў, шпурнуў камень. Кенгуру адразу ж страпянуўся і, зрабіўшы парабалу на фоне вячэрняга неба, пераскочыў праз сем правінцый і знік за даляглядам. Вядомы Натураліст здаваўся зацікаўленым, але маўчаў амаль гадзіну; пасля запытаў свайго Праваднікa-тубыльца:

— Мяркую, вы маеце даволі вялікія паплавы?

— Не, не вельмі, — адказаў Праваднік. — Амаль такія самыя, як у Англіі ці ў Амерыцы.

Пасля яшчэ адной маўклівай паўзы Вядомы Натураліст зноў запытаўся:

— А сена, што мы купім сёння для нашых коней будзе ў вязанках ў пяцьдзесят футаў, ці не так?

— Вядома, не, — адказаў Праваднік. — Нашы вязанкі звычайна даўжынёй у фут ці два. Што гэта вам прыйшло ў галаву?

Вядомы Натураліст зноў памаўчаў, і толькі калі яны былі ўжо ў цемры ночы, што ахутала Вялікую Пустую Даліну, ён сказаў:

— Я тут думаў пра надзвычайныя памеры тутэйшага коніка.

*З англійскай пераклаў*
**АЛЕСЬ КУДРАЎЦАЎ**






## МАРСІЯНЕ

Адзначылі хлопцы ўтрох
Імяніны Саўкі...
І гадалі, хто дзе б змог
Адшукаць „дабаўкі"?
За сталом сказаў Хвядос:
— Спосаб ёсць ад смагі —
Кажуць, жлукцяць хларафос —
Замяняльнік брагі.
— Хай ён лепей блох трасе!
З фарбай ёсць бляшанкі,
І на сьпірце лакі ўсе, —
Растлумачыў Янка.
Першы Саўка на куце
Выпівае чарку:
Бы сярпом па жываце
Ці даўбнёй па карку.
— Ты — Савось ці не Савось?
Быццам іншы твар быў...
З галавы да пятак скрозь
Пасінеў ад фарбы.
Ну, цяпер, відаць, капцы! —
Нехта падняў вэрхал.
Лататы даюць хлапцы
З трэцяга паверха.
— Фантамасы! — дзетвара
Цуд не можа ўцяміць.
А ля іншага двара:
— Іншапланецяне!
Бо не бачылі яны
Гэтакай праявы.
— Вы з касмічнай стараны
Ці з якой дзяржавы?
Узняў лямант Цімафей:
— Што на нас глядзіце?
Ой, ратуйце ж нас хутчэй,
Ой, хутчэй ў бальніцу!

**ГЕНАДЗЬ ЗОТАЎ**

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Падарожнік пад'язджае позна ноччу да маленькай гасцініцы.

— Прабачце, — звяртаецца ён да чалавека, які стаіць ля пад'езда, — як вы думаеце, тут можна добра выспацца?

— Думаю, што можна. Я ўжо гадзіны паўтары грукаю ў дзверы, і ніхто яшчэ не прачнуўся.

* * *

Жонка будзіць Мікалая:

— Уставай, стары, пеўні ўжо крычаць!

— Не трэба нам у гэту справу ўмешвацца, — прабурчаў Мікалай і перавярнуўся на другі бок.

* * *

— Ты прыгожая, разумная, добрая! — сказаў неяк Біл сваёй жонцы. — Калі б Бог не стварыў цябе, што б я рабіў, як бы жыў? Напэўна да магілы не ажаніўся б ні з кім.

— А як бы ты зрабіў, калі б Бог стварыў дзвюх такіх, як я? — запытала жонка.

— Ніводную не пакрыўдзіў бы: узяў бы абедзвюх за жонак — не задумваючыся, адказаў Біл.

* * *

Марак, выкінуты на бязлюдную выспу, зламіў папугая і навучыў яго гаварыць. Аднойчы вечарам папугай прыляцеў да свайго гаспадара вельмі ўсхваляваны.

— Там жанчына, — крычаў ён, — і такая цудоўная!

Марак кінуўся за папугаем, які ляцеў і крычаў:

— Якія вочы! А якая фігура!

Нарэшце папугай сеў на галіну і паказаў дзюбай.

— Вось яна, бос!

— Ах ты, шэльма, — вылаяўся марак. — Дык гэта ж папугаіха!

* * *

Шатландзец прыйшоў у мэрыю, каб зарэгістраваць свой шлюб, але ў апошнюю хвіліну перадумаў:

— Бадай, я ўсё-такі ажанюся з другою і прыду з ёю заўтра.

— Калі ласка. Але змяненне ў дакументах будзе каштаваць дадатковых пяць фунтаў.

— Гм... Тады, бадай, я ажанюся з гэтай...

* * *

— У многіх установах, — сказаў у сваім выступленні новы галава фірмы, — палавіна людзей працуе, а палавіна бяздзейнічае. У нас цяпер усё будзе наадварот.

* * *

— Сёння ў цябе цудоўныя атрымаліся грыбы, — сказаў муж жонцы, задаволены сытным абедам. — Дзе ты знайшла рэцэпт іх падрыхтоўкі?

— У адным дэтэктыўным рамане.

Падборку зрабіў
**ЯНКА ДАРОЖНЫ**



Міленькая Сэрцайка! Хадзілі мы з гэтым хлопцам доўга — аж цэлы месяц, пакуль не дайшло да інтымнага збліжэння. Нейкі ён быў пры гэтым нясмелы, а здаваўся мне на пачатку такі баявы, адважны. Ён у маім узросце (нам па 23 гады), і я думала, што буду шчаслівая, калі дойдзе да палавога збліжэння. А выйшла зусім інакш.

Высветлілася, што ён не мае яшчэ ніякага вопыту ў гэтых справах. Я была вельмі расчараваная.

Даражэнькая! Ты мяне не ведаеш, і таму магу смела напісаць табе, што я ў гэтых справах сяджу ўжо ад шаснаццатага года. Сёння ж, не таямніца, моладзь пачынае сваё сексуальнае жыццё вельмі рана. На Захадзе нават раздаюць дзецям прэзерватывы, каб не радзілі трынаццацігодкі, як у нас. Дык думаю, нічога кепскага і я не рабіла. Прынамсі ведаю цяпер, як выглядае тое-сёе, ведаю, чаго можна спадзявацца ад мужчыны. Ну... і навучылася пры гэтым нямала. Ужо нават уяўляю сабе, які мае быць мой муж.

І вось мы апынуліся з гэтым хлопцам у пасцелі. Відаць было, што ўсё-такі я ў яго не першая. Што-колечы ўмеў. Але ўсё гэта выглядала надта мізэрна ў параўнанні з маім, сямігадовым ужо вопытам.

Кожны з хлопцаў, з якімі я раней хадзіла, быў іншы, але меў свае прывабы, сваю спецыфіку. Нешта цягнула мяне да яго. Адзін умеў цалаваць, як ніхто, другі мог пахваліцца незвычайнымі, як ты гэта называеш, габарытамі. Трэці кахаўся так доўга і палымяна, што аж млеў чалавек. Чацверты, хоць і не мог пахваліцца ні занадта вялікімі габарытамі, ні доўгімі палавымі зносінамі, дык умеў так распаліць партнёрку сваімі пяшчотамі і пацалункамі (усюды!), што пасля дастаткова ўжо было толькі дакрануцца, і я ўжо была гатова.

А гэты... гэты зрабіў усё вельмі звычайна, у самай простай пазіцыі і быў дзіўна задаволены сабою. Я здзівілася. Думала, што гэта толькі на першы раз ён так хутка справіўся і супакоіўся. Чакала, спадзявалася нечага новага ў будучыні. Думала, лепш будзем знаць адзін другога, наблізімся (бо можа саромiцца яшчэ мяне), і ўсё прыйдзе ў норму. Але ж не!

Час ішоў, мы сустракаліся штораз часцей, а мой хлопец не змяняўся. Праўда, была яшчэ адна пазіцыя, ён падыходзіў да мяне ззаду і як бы браў мяне на калені. У гэтай пазіцыі, трэба прызнаць, ён адчуваў сябе найлепш і эфект быў найбольшы.

Я падумала, што мо варта падвучыць яго крыху. Але ж ведаю, што трэба гэта рабіць далікатна, бо не ўсе хлопцы любяць, калі дзяўчаты праяўляюць у гэтых справах занадта вялікую актыўнасць. Памаленьку падсунулася да яго і пачынаю па-свойму. Як не залуецца ж ён, як не адпіхне мяне, як не адвернецца... Мне стала амаль сорамна за сябе. А чаму? Іншыя ж хлопцы нават хацелі, каб іх цалаваць і ласкаць. Неяк я яго залагодзіла і мы заснулі.

Больш мне не хочацца з ім сустракацца, а шкада. Такі прыгожы хлопец! Як ты думаеш, Сэрцайка, ці варты ён заходу?

**Бася**

Бася! Думаю, што не варты. Занадта нервовы. Яшчэ калі лясне табе з тых нерваў. Ты так доўга чакала — цэлы месяц, а ён так хутка і абы-як усё аформіў.

Ага, а што датычыць твайго будучага мужа, дык твой багаты вопыт зусім не гарантуе трапнага выбару. Завялікі вопыт можа нават і перашкодзіць у выйсці замуж.

**СЭРЦАЙКА**

